



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

30 верасня 2016 года №40 **(1118)**


## Будзеце сустракаць мужа з качалкай, знойдзецца тая, якая сустрэне з усмешкай

старонка **20**

## Ісці сцяжынай адчуванняў. У цэнтры "Надзея" запусцілі новы праект

старонка **21**

## Садок у Ашмянах можа ўдвая скараціць энергаспажыванне

старонка **6**

## Для некаторых яна была сямейным настаўнікам

старонка **18**

# Працерлі меламінавай губкай кухонны стол – рыхтуйцеся да камянёў у нырках

старонка **5**

Фота just40.nl.

**Якія яшчэ наступствы нясе кухонная "хімія" для здароўя?**

# Далучайцеся да конкурсу "Дзясятачка"

## Выйграй планшэт за выдатную вучобу

**У першым туры конкурсу перамагла 5-класніца 14-й школы Маладзечна Вікторыя Валюкевіч.**

Дзяўчынка атрымае ў падарунак фірменную майку і палатняную торбачку ад "Рэгіянальнай газеты".

Паважаныя бацькі! Далучыце да конкурсу сваіх дзяцей. Дзякуючы конкурсу ад "Рэгіянальнай газеты" "Дзясятачка" вы матывуеце сваіх школьнікаў вучыцца выдатна. Выхоўваеце разуменне, што добрымі ведамі можна зарабіць. Развіваеце актыўнасць і жаданне стаць лепшым. Вы паказваеце сыну ці дачцэ, што ім пад сілу дзякуючы выдатнай вучобе пазмагацца за дарагую патрэбную рэч.

Акрамя выхаваўчага ўнёску, дзіця можа абсалютна рэальна выйграць планшэт.

Нагадваем, што рэдакцыя таксама ўзнагародзіць удзельніка, які дашле найбольш бланкаў, і настаўніка, чые вучні будуць найбольш актыўна ўдзельнічаць у конкурсе.

Пакуль самымі актыўнымі былі вучні маладзечанскіх школ №1 і №14.

У конкурсе могуць удзельнічаць вучні ўсіх класаў школ і гімназій з рэгіёна, у якім выходзіць "РГ". Для ўдзелу вам дастаткова выразаць бланк удзельніка, запоўніць і даслаць нам або прынесці ў рэдакцыю.

**Адрас рэдакцыі**: 222304, Мінская вобласць, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а. Зрабіце на канверце пазнаку "10-ка".

Конкурс праводзіцца ў некалькі тураў. Вынікі тыднёвых тураў мы падводзім па пятніцах у 15 гадзін. Чарговы розыгрыш пройдзе 30 верасня ў рэдакцыі "РГ". У ім будуць удзельнічаць бланкі, атрыманыя да 15 гадзін гэтага дня. Пераможцу мы абяром, выцягнуўшы адзін з бланкаў услепую. Удзельнікі пры гэтым могуць прысутнічаць.

Бланкі, атрыманыя пасля 15 гадзін 30 верасня і да 15 гадзін 7 кастрычніка, будуць удзельнічаць у розыгрышы трэцяга тура.

Абсалютна ўсе атрыманыя ад 16 верасня да 28 кастрычніка бланкі будуць удзельнічаць у розыгрышы галоўнага прыза – планшэта.

Яшчэ адзін падарунак мы прапануем для цэлага класа. На нашым сайце rh.by мы размесцім галасаванне за класы, якія прадстаўляюць удзельнікі конкурсу. Той клас, які набярэ найбольш галасоў, выйграе паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Да ўдзелу допускаюцца толькі выразаныя з газеты бланкі. Удзельнікам можа стаць вучань, які атрымаў у гэтым навучальным годзе адзнаку "9" ці "10" па любым прадмеце. Колькасць дасланых заявак неабмежаваная, але толькі раз з адной адзнакай, і толькі адну адзнаку можна ставіць у адзін бланк.

У графе "подпіс настаўніка" папрасіце паставіць подпіс таго настаўніка, які паставіў вам адзнаку.

Жадаем вам поспеху і выдатнай вучобы!

### Бланк удзельніка конкурсу "Дзясятачка" (№40)




- Імя, прозвішча ____________________
- Дата нараджэння ____________________
- Клас ____________________
- Школа ____________________
- Населены пункт ____________________
- Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі ____________________
- Прадмет, за які атрыманы бал ____________________
- Які бал атрымаў ("9" ці "10") ____________________
- Дата, калі быў атрыманы бал ____________________
- Імя, імя па бацьку і прозвішча настаўніка ____________________
- Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам ____________________
- Подпіс настаўніка ____________________





Шымон Перэс. Фота ideasleepinamerica.com.

# Што нам трэба ведаць пра Шымона Перэса

ВАЛОЖЫН

**Знакаміты палітык памёр 28 кастрычніка ў 93 гады пасля інсульту.**

**1. Чалавек, якім захапляецца ўвесь свет, нарадзіўся у мястэчку Вішнева на Валожыншчыне 2 жніўня 1923 года.**

У год нараджэння Сямёна Перскага, будучага Шымона Перэса, у Вішневе жыло каля 200 яўрэйскіх сем'яў. Яго бацька працаваў леснікам і зрэдку бываў дома. Таму Сямён прывязаўся да дзеда – вясёлага шаўца, знаўцы святой кнігі Торы і яўрэйскай паэзіі. Дзед, па словах Перэса, быў крыніцай мудрасці.

Ён прыгадвае: "Мае бацькі не былі артадоксамі, я быў. Аднойчы, калі ў Шабат я пачуў, што бацькі слухаюць радыё, я зламаў яго".

Усе вішнеўскія яўрэі былі сіяністамі і марылі трапіць на святую зямлю Палесціны. У 1931 годзе такі выпадак выпаў бацьку Сямёна. А праз два гады, разбагацеўшы на гандлі збожжам і адчуўшы, што цвёрда стаіць на нагах, ён выклікаў да сябе жонку і дзяцей. Вясной 1934 года маці з Сямёнам і яго малодшым братам Гіршам далучыліся да галавы сям'і.

**2. Знакаміты палітык пісаў вершы.**

Сямён на ўсё жыццё палюбіў паэзію. У дзевяць гадоў у Вішневе напісаў свае першыя вершы. Некаторыя з іх ён паслаў Хаіму Нахману Бяліку – вялікаму нацыянальнаму паэту. Бялік адказаў хлопчыку, адзначаючы яго адоранасць.

Ён аўтар артыкулаў і кніг на палітычныя тэмы. Перакладаў літаратурныя творы.

**3. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру.**

Заслугі Перэса перад Ізраілем і светам прызнаюць як сябры, так і сапернікі.

Перэс пачаў палітычную кар'еру яшчэ ў канцы 1940-х, у камандзе легендарнага ізраільскага прэм'ера Бэн-Гурыёна. Пасля ён прызначаўся міністрам абароны, кіраўніком МЗС, двойчы выконваў абавязкі прэм'ера. Але "зорны час" Перэса – гэта 1993 год, тады ён быў "другім нумарам" у камандзе Іцхака Рабіна.

Дзякуючы намаганням Перэса Ізраіль падпісаў пагадненне з Арганізацыяй вызвалення Палесціны, з Ясірам Арафатам. Год пазней Перэс, Рабін і Арафат становяцца Нобелеўскімі лаўрэатамі. Яшчэ праз год Рабіна заб'юць.

"Я веру ў тое, што мір настане ў самай блізкай будучыні, нягледзячы на ўсе цяжкасці і праблемы. Таму што ў ізраільцянаў і палесцінцаў няма іншай альтэрнатывы, акрамя як жыць у згодзе", – кажа Шымон Перэс.

**4. Двойчы прыязджаў у роднае Вішнева – у 1998 і 2004 гадах.**

15 студзеня 1998 года Сямён Перскі, а цяпер ужо славуты на ўвесь свет палітык і міратворца Шымон Перэс зноў піў ваду з вішнеўскай студні.

**5. Быў амаль на ўсіх галоўных пастах Ізраіля.**

Быў на кіраўнічых пасадах міністэрстваў абароны, фінансаў, інфармацыі, замежных спраў, рэгіянальнага развіцця. Ён некалькі разоў прайграваў сваім апанентам у барацьбе за пост прэзідэнта, але ў 2007 годзе ўсё ж стаў ім. Пасля прысягі ён заявіў, што Ізраіль павінны выконваць міратворчую ролю.

**6. Пасля смерці стаў донарам.**

Як паведамляе Reuters, ён ахвяраваў рагавіцы вачэй для трансплантацыі таму, хто мае ў іх патрэбу.

**7. Ніколі не браў адпачынку.**

Бі-бі-сі прыгадвае словы палітыка: "Людзі ідуць у адпачынак – пустая трата часу. Мне ўжо 90, і я ніколі не быў у адпачынку".

**Аддзел інфармацыі.**

**Успаміны аднакласніка з Вішняўца пра Шымона Перэса чытайце на нашым сайце**




### Цытаты Шымона Перэса

За год да смерці, у 92 гады, ён прыехаў у Кіеў, дзе выступіў з надзвычай мудрай прамовай. Вось урыўкі (тэкст цалкам дае "Наша ніва"):

✔ Я кажу маладым хлопцам або дзяўчатам: сябры, у вас ёсць значна больш, чым вы думаеце. Не лянуйцеся. У вас ёсць значна больш, чым зямля вам можа прапанаваць. Вы можаце вырабляць рэчы, якія не дадзеныя вам. Гэта ўрок для ўсіх.

✔ Патэнцыял ва ўсіх людзей – вельмі вялікі. Але ўсе яны трошкі гультаяватыя. Калі хочаце чагосьці дамагчыся, трэба працаваць. Першае – людзі павінны былі стаць мужнымі і храбрымі. Яны павінны былі зразумець, што ў нас няма выбару – мы павінны толькі перамагчы. Калі мы хоць адзін раз прайграем – усё.

✔ Што вы хочаце памятаць? Усе зробленыя вамі памылкі? На гісторыю нельга абапірацца. Гісторыкі былі вестунамі каралёў і тых, хто быў пры ўладзе – яны казалі тое, што трэба.

✔ Мяне пытаюцца часам: калі азірнуцца назад, якімі былі вашы самыя вялікія памылкі? Я адкажу: мы думалі, што ў нас вялікія мары. А цяпер разумеем, што яны былі не такімі ўжо вялікімі. Трэба марыць пра большае. Чым большая ваша мара, тым большага вы дамажацеся.

✔ Яшчэ людзі пытаюць мяне, як заставацца актыўным. Гэта вельмі проста. Лічыце у галаве вашы дасягненні і мары. Калі вашых мараў больш, чым дасягненняў – значыць, вы ўсё яшчэ маладыя. Калі наадварот – вы старыя.

### Біяграфія

**1923**. Шымон Перэс (Сямён Перскі) нарадзіўся ў Вішневе Валожынскага павета.
**1934**. Сям'я эмігрыруе ў Палесціну.
**1945**. Ажаніўся з Соні Гелман, якая пазбягала публічнасці. У Перэса два сыны і дачка.
**1977**. Становіцца лідэрам рабочай партыі "Авода" і прэм'ер-міністрам Ізраіля.
**1986**. Прадстаўнік прэм'ер-міністра ва ўрадзе Іцхака Шаміра.
**1992**. Міністр замежных спраў.
**1993**, 13 верасня. Падпісвае мірнае пагадненне ў Осла.
**1994**, 10 снежня. Атрымлівае Нобелеўскую прэмію міру разам з палесцінскім лідэрам Ясірам Арафатам і Іцхакам Рабіным.
**1995**, лістапад. У сувязі з забойствам Рабіна становіцца новым прэм'ер-міністрам.
**1996**, 21 мая. Прайграе выбары на пасаду прэм'ер-міністра Бэнджаміну Нетаніяху.
**2007 – 2014**. Прэзідэнт Ізраіля.
**28 верасня 2016 года** пайшоў з жыцця пасля інсульту.

# Абмяркоўвалі кірзавыя боты месяц, а не чатыры гадзіны

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Публікацыя "Рэгіянальнай газеты" ў нумары 38 ад 16 верасня "У судзе чатыры гадзіны абмяркоўвалі кірзавыя боты" атрымала водгук у нашых чытачоў.**

Начальнік Маладзечанскага міжраённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы **Дзяніс Томашаў** даслаў ліст пра тое, як гэта справа выглядае з пункту погляду заканадаўства і інспекцыі працы.

"Інспекцыя працы не праводзіць экспертызу, а праводзіць спецрасследаванне і складае заключэнне, якое падпісвае дзяржаўны інспектар працы – дзяржаўны служачы, які надзелены паўнамоцтвамі дзяржавы на выкананне свайго прафесійнага абавязку і з'яўляецца спецыялістам у гэтай сферы.

Хачу адзначыць, што абмеркаванне кірзавых ботаў праводзілася не чатыры гадзіны, а на працягу шасці судовых пасяджэнняў цягам месяца.

Жанчына не папрасіла кампенсаваць ёй 320 мільёнаў рублёў. Дадзеная выплата ёй належыць па законе, бо гэта прапісана ў калектыўнай дамове арганізацыі, згодна з якой кіраўнік арганізацыі і прафсаюзны камітэт ад асобы работнікаў прынялі адпаведны дакумент і абавязаліся яго выконваць.

Да вашага ведама, у асобных выпадках наймальнік мае права з дазволу тэрытарыяльнага органа дзяржаўнага санітарнага нагляду і дзяржаўнага інспектара працы і па ўзгадненні з прафсаюзам або іншым упаўнаважаным прадстаўніком работнікаў замяняць адзін від сродкаў індывідуальнай абароны іншым з раўнацэнннымі або больш высокімі ахоўнымі ўласцівасцямі і гігіенічнымі характарыстыкамі.

Напрыклад, камбінезон бавоўняны можна замяніць касцюмам баваўняным ці халатам, чаравікі скураныя – гумовымі ботамі, валёнкі – кірзавымі ботамі і наадварот.

Дык вось, не высмейваць трэба ў дадзеным выпадку боты кірзавыя, як не эстэтычны і не модны для сучасных жанчын абутак, а рабіць акцэнт на тое, што з боку наймальніка не выкананыя яго прамыя і непасрэдныя абавязкі. Гэта пытанне можна было даўно ўжо ўзгадніць: купіць і забяспечыць кантралёраў водаправоднай гаспадаркі сучасным абуткам з раўназначнымі ахоўнымі ўласцівасцямі.

А так атрымліваецца, што наймальнік парушае заканадаўства і вы гэта выгароджваеце, а над законам і дзяржавай смеяецца, распаўсюджваючы дадзеным артыкулам упэўненасць у беспакаранасці наймальнікаў Мінскага рэгіёна. Вось неяк так. Дзякуй. З павагай Ваш пастаянны чытач Томашаў Д.М.".

**Аддзел інфармацыі.**


Фота ў ПЛ

Дзяніс Томашаў.

## З грошай, якія збіраюць у скарбонку, плануюць купіць машыну

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Грошы ў Вольгі Ждановіч ніколі надоўга не затрымліваліся – вельмі любіла рабіць пакупкі.**

Аднак пасля дэнамінацыі муж адразу падарыў трывалую скарбонку, нават пры асаблівым жаданні трэба прыкласці намаганні, каб адкрыць. На гэта і быў разлік.

– Аднак мне спадабалася ідэя са скарбонкай, цікава было, таму не было асаблівай спакусы адкрываць і пералічваць грошы, – расказвае жанчына. – Часам у магазінах спецыяльна прасілі манеты. Са з'яўленнем новых грошай мы паставілі сабе мэту назапасіць трохлітровы слоік. Аднак, думаю, атрымаецца хутчэй, бо за два месяцы ў нас больш за 400 рублёў.

Цяпер жанчына вучыцца ў аўташколе, да новага года плануе атрымаць правы.

– Так вось назапасім яшчэ да трох літраў і купім машыну, – заўважае Вольга.

Дасылайце ў рэдакцыю гісторыі пра тое, як вы збіраеце грошы, ці дапамагаюць вам у гэтым скарбонкі, за які час плануеце напоўніць свой скарб і на што марыце патраціць. Дзяліцеся сваімі назіраннямі, як рэагуюць прадавачкі ў магазінах, калі прыносіце многа манет, колькі часу ім спатрэбіцца, каб палічыць.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 22.09 руб. | 29.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1,9457 | **1,9330** |
| Еўра | 2,1694 | **2,1636** |
| Злоты, 10 | 5,0674 | **5,0490** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0192 | **3,0218** |
| Грыўня, 100 | 7,5405 | **7,4733** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 28.09** | | |
| Еўра | 2.1500/2.1830 | **2.1400/2.1700** |
| Долар ЗША | 1.9300/1.9490 | **1.9150 /1.9330** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 21.09 | | 28.09 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 800 | 3,18 | 32 400 | 3,24 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | 7,00 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 13,50 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 25 300 | 2,53 | 25 300 | 2,53 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 13 000 | 1,30 | 13 000 | 1,30 |
| Алей "Фермер", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | 3,85 | 38 500 | 3,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 500 | 0,55 | 5 000 | 0,50 |
| Часнок, 1 кг | 65 000 | 6,50 | 65 000 | 6,50 |
| Капуста, 1 кг | 4 900 | 0,49 | 4 400 | 0,44 |
| Морква, 1 кг | 5 500 | 0,55 | 5 000 | 0,50 |
| Баклажаны, 1 кг | 12 500 | 1,25 | 19 500 | 1,95 |
| Лімоны, 1 кг | 49 900 | 4,99 | 47 500 | 4,75 |
| Апельсіны, 1 кг | 32 500 | 3,25 | 32 000 | 3,20 |
| Мандарыны, 1 кг | 39 900 | 3,99 | 45 000 | 4,50 |
| Гранаты, 1 кг | 49 900 | 4,99 | 44 900 | 4,49 |
| Нектарыны, 1 кг | 30 000 | 3,00 | 35 000 | 3,50 |
| Ківі, 1 кг | 32 000 | 3,20 | 29 000 | 2,90 |
| Буракі, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 4 000 | 0,40 |
| Памідоры, 1 кг | 6 500 | 0,65 | 9 500 | 0,95 |
| Агуркі, 1 кг | 16 500 | 1,65 | 22 500 | 2,25 |
| Перац, 1 кг | 15 000 | 1,50 | 10 000 | 1,00 |
| Кавун, 1 кг | 4 500 | 0,45 | 4 500 | 0,45 |
| Дыня, 1 кг | 12 000 | 1,20 | 10 000 | 1,00 |
| Кабачок, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 4 000 | 0,40 |
| Вінаград, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 27 000 | 2,70 |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | 1,99 | 19 900 | 1,99 |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 9 900 | 0,99 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 3 500 | 0,35 | 3 000 | 0,30 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

## За парушэнні замяжоўцам скасуюць дазвол на жыхарства ў Беларусі

**Замяжоўцам, якія часова ці пастаянна жывуць у Беларусі, неабходна строга выконваць патрабаванні заканадаўства. Калі ж парушэнні будуць дапушчаныя, спрацуе прынцып непазбежнасці адказнасці.**

І гэта можа пацягнуць для замяжоўца ў тым ліку скасаванне дазволу на жыхарства ў Беларусі.

У адпаведнасці з палажэннем Закона "Аб прававым палажэнні замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь" (са зменамі і дапаўненнямі), дазвол на часовае ці пастаяннае жыхарства замяжоўцу можа быць скасаваны.

У прыватнасці, калі замяжовец падчас знаходжання ў краіне пяць і больш разоў за адзін каляндарны год прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. І пры гэтым не закончыўся тэрмін, пасля якога ён ужо не падвяргаўся адміністрацыйнаму спагнанню.

Артыкул 2.8 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях прадугледжвае, што фізічная ці юрыдычная асоба лічыцца, што не падвяргалася адміністрацыйнаму спагнанню, калі цягам аднаго года з дня заканчэння выканання асноўнага і дадатковага адміністрацыйнага спагнанняў не здзейсніць новае адміністрацыйнае правапарушэнне.

Рашэнне аб скасаванні дазволу на часовае ці пастаяннае жыхарства, выдадзенае замяжоўцу, могуць прымаць і органы ўнутраных спраў самастойна ці па хадайніцтве адпаведных дзяржаўных органаў Беларусі.

У выпадку нязгоды з такім рашэннем яно можа быць абскарджанае, у тым ліку і ў судзе, у парадку, прадугледжаным заканадаўствам Беларусі.

Як паказвае судовая практыка, пры прыняцці органамі ўнутраных спраў падобных рашэнняў, суды адмаўляюць у задавальненні скаргаў асобам, дазвол на жыхарства якім быў скасаваны. Пры ўмове выканання органамі ўнутраных спраў устаноўленай для гэтага працэдуры і патрабаванняў заканадаўства.

Пры гэтым довады скаргаў замяжоўцаў аб неметазгоднасці прыняцця такіх рашэнняў па прычыне выканання імі іншых законаў суд не ўлічвае. Закон не робіць выключэнняў з агульных правілаў, распаўсюджваецца на ўсіх без абмежаванняў.

**Дзяніс ГІРЛОЎСКІ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

# Кіроўца збіў насмерць кантралёра на АЭС

**АСТРАВЕЦ**

**18 снежня вечарам жыхар Смаргоні ехаў на тэхнічна спраўным службовым грузавіку, аўтабетоназмяшальніку "Івека". Пасля выгрузкі бетону ён выехаў з прамысловай пляцоўкі атамнай электрастанцыі.**

Ведаючы аб парадку дагляду і праезду праз кантрольна-прапускны пункт, пад'ехаў да варот аднаго з іх.

Кантралёр спачатку праверыла пасажырскую частку салона для папярэджання крадзяжу. Зачыніўшы пасажырскія дзверы кабіны, накіравалася да дзвярэй кіроўцы для праверкі і сканавання асабістага пропуску кіроўцы. Яна абыходзіла машыну спераду, калі кіроўца пачаў ехаць без дазволу кантралёра і наехаў на яе.

У выніку аварыі кантралёр атрымала цялесныя пашкоджанні, сярод якіх траўма галавы, тулава, канечнасцяў, пераломы рэбраў, паясніцных пазванкоў, сцягна і іншыя. Кіроўца парушыў адразу некалькі патрабаванняў Правілаў дарожнага руху. У прыватнасці, не ўпэўніўся, што яго дзеянні будуць бяспечнымі і не стануць перашкодай для дарожнага руху.

Абвінавачаны віну не прызнаў. На судзе ён удакладніў, што вёз бетон на пляцоўку будаўніцтва АЭС. На КПП кантралёр адчыніла пасажырскія дзверы і, нічога не сказаўшы, зачыніла. Так як іншых машын не было, а шлагбаўм быў падняты, кіроўца вырашыў, што атрымаў дазвол на праезд.



Фота ikincielim.com.

Жанчына трапіла пад колы грузавіка і загінула ад атрыманых траўмаў.

У люстэрках ён нікога не бачыў, перад машынай таксама ніякіх перашкод не было бачна. Праехаўшы некалькі метраў, пачуў крыкі і спыніўся. Іншы кантралёр сказала, што пад машынай чалавек. Якраз пад'ехала яшчэ машына, з кіроўцам якой ён пачаў здымаць кола, каб вызваліць жанчыну.

Муж загінулай на судзе распавёў, што ў той дзень сыну жанчыны патэлефанавалі калегі, сказалі пра здарэнні і што цяпер яна ў Астравецкай раённай бальніцы. Удвух яны паехалі ў бальніцу. Там муж толькі бачыў, як жонка крычала і прасіла абязбольванне. 24 снежня яе перавялі ў Мінск, а 15 студзеня яна памерла.

Адна з калег пацярпелай выступіла сведкай па справе і патлумачыла, што пачула крыкі і выбегла на вуліцу. Убачыла, што пад коламі машыны кантралёр, закрычала пра гэта кіроўцу. Пачуўшы, ён выскачыў і пачаў дапамагаць жанчыне. Кантралёр распавяла правілы працэдуры праходжання КПП.

Паводле экспертызы, кіроўца быў цвярозы. Падчас даследавання няспраўнасці ў машыне не знайшлі. На следчым эксперыменце было даказана, што кіроўца мог бачыць чалавека са свайго месца ў бакавым люстэрку ў тым становішчы, у якім загінулая была перад пачаткам руху аўто.

Абвінавачанаму 29 гадоў. Халасты, працэ кіроўцам на прадпрыемстве "СержБудТранс". Жыве ў Смаргоні, раней не судзімы.

Суд прыгаварыў абвінавачанага прызнаць вінаватым у парушэнні правілаў дарожнага руху, якія пацягнулі па неасцярожнасці смерць чалавека.

Яму прызначылі пакаранне – пазбаўленне свабоды на два гады з пазбаўленнем права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем на пяць год. З прадпрыемства, на якім працаваў асуджаны, спагналі сем тысяч рублёў маральнай школы на карысць мужа загінулай.

Асуджаны падаў апеляцыю ў абласны суд, бо не быў згодны з прыгаворам. З прыгаворам не была згодная і астравецкая пракуратура, у сувязі з чым таксама накіравала апеляцыю ў абласны суд.

Абласная судовая калегія вызначыла змяніць прыгавор Астравецкага суда. Замянілі два гады пазбаўлення свабоды на два гады абмежавання свабоды з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу.

Памер спагнання з прадпрыемства на карысць мужа загінулай павялічылі з сямі тысяч рублёў да дзесяці.

**Дзмітры БАГДАНОВІЧ, памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

## На Вілейшчыне шукаюць мужчыну

**ВІЛЕЙКА**



Фота забяспечанае аддзяленнем крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.

Вілейскі РАУС адшуквае зніклага без вестак **Віталя Еўдакімава**. Яму – 28 год, ураджэнец Мінска. Жыве ў пасёлку Шаршуны Мінскага раёна. Мужчына знік у вёсцы Вязынь Вілейскага раёна 23 верасня гэтага года. Апошняе вядомае месцазнаходжанне Еўдакімава – бераг ракі Ілія, размешчаны паблізу вёскі Вязынь.

Прыкметы: на выгляд 27-28 гадоў, сярэдняга целаскладу, рост каля 190 сантыметраў, шэрыя вочы, светла-русыя валасы сярэдняй даўжыні.

Быў апрануты ў шэрую безрукаўку са штучнага футра на гузіках, чорныя спартыўныя штаны, камуфляжныя штаны, чорную байку з капюшонам, чорную майку з кароткім рукавом з выявай ваўка ў акулярах, чорныя берцы (памер абутку 45).

Асаблівыя прыкметы: на грудзях ёсць некалькі белых плям вітыліга дыяметрам ад 2 да 6 сантыметраў, на пярэдплечны левай рукі – некалькі гарызантальных рубцоў даўжынёй 5-6 сантыметраў кожны.

Калі вы што-небудзь ведаеце па месцазнаходжанне Віталя Еўдакімава альбо валодаеце інфармацыяй, якая спрыяла б устанаўленню яго месцазнаходжання, паведамляйце па нумарах: (8029) **507-66-86**, (8033) **314-30-42** або **102**.

**Паводле аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**

## За год на Маладзечанскай чыгунцы здзейсненыя чатыры злачынствы

**МАЛАДЗЕЧНА**

У зоне абслугоўвання Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце за гэты год зарэгістравалі чатыры злачынствы.

Адно з іх адбылося ў цягніку рэгіянальных ліній, а тры – на станцыях і прыпынaчных пунктах.

Па гэтай прычыне супрацоўнікі АУСТ на транспарце ад 22 да 24 верасня праводзілі спецыяльнае комплекснае мерапрыемства "Прыгарадны цягнік". Мэта мерапрыемства – забяспечыць асабістую і маёмасную бяспеку пасажыраў і членаў брыгад цягнікоў. Супрацоўнікі таксама папярэджваць праваапарушэнні ў цягніках, шукаюць людзей, якія ў вышуку.

Каб не стаць ахвярай злачынства ў цягніку, захоўвайце свае рэчы пры сабе і не пакідайце іх без нагляду. Не перадавайце свае рэчы незнаёмым.

Калі ж вы ўсё ж сталі ахвярай злачынства ў цягніку, просім вас адразу ж тэлефанаваць у аператыўна-дзяжурную службу па тэлефонах: (80176) 77-09-86, 74-24-16 ці 102.

**Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ, інспектар прапаганды Маладзечанскага АУСТ.**



## На Валожыншчыне "Опель" наехаў на жанчыну – яна памерла

**ВАЛОЖЫН**

Трагедыя адбылася каля 9 вечара 21 верасня на аўтадарозе Мінск-Гродна.

40-гадовы кіроўца ехаў на аўто "Опель-Амега" ў напрамку Гродна. Паблізу вёскі Рум Валожынскага раёна машына наехала на 75-гадовую мясцовую жыхарку. Жанчына ішла па праезнай частцы ў спадарожным кірунку.

Пешаход ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памерла на месцы здарэння. Вядома, што яна не была пазначана святлоадбівальнымі элементамі.

Па факце ДТЗ распачалі крымінальную справу.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## Маладзечанцу пагражае штраф за прапаганду нацызму

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Маладзечне затрымалі мужчыну, які хадзіў па краме ў нацысцкім галаўным уборы, расказаў начальнік прэс-службы УУС Мінскага аблвыканкама **Яўген Сачак**.

"Пра мужчыну, які ў краме па вуліцы Будаўнікоў гуляў у фуражцы шэра-зялёнага колеру з нацысцкай сімволікай (эмблемай чэрапа і арла), у міліцыю паведамілі пакупнікі. Жыхар Маладзечна растлумачыў, што галаўны ўбор набыў у ламбардзе. Прычын, якія прымусілі яго надзець і прыйсці ў такім выглядзе ў краму, ён не назваў. Праводзіцца праверка, а дзеянням грамадзяніна даецца прававая ацэнка.

**Паводле БелТА.**

# Ці стане кухня чысцей ад “хіміі”?

## Прыбіраемся на кухні разам з эколагам

**Сучасная гаспадыня вельмі цэніць свой час. Гадзінамі церці пліту і паліраваць падлогу? Не, ужо лепей заліць бруд моцным “хімікатам”, і праз пару хвілін паверхні заблішчаць чысцінёй. Аднак эколагі папярэджваюць: эканомячы свой час, мы часта эканомім на здароўі сям’і.**

Як зрабіць сваю кухню чыстай і адначасова экалагічна бяспечнай, чытачам “РГ” распавядае **Дар’я Чумакова**, каардынатар праграмы па экалагічна сяброўскім ладзе жыцця Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск).

### Чым лепей мыць посуд?

Зірніце на склад сродку для мыцця посуду, якім вы карыстаецеся дома. Першым пунктам будуць стаяць паверхнева-актыўныя рэчывы (ПАВ – так гучыць абрэвіятура па-руску). Менавіта гэтыя рэчывы змываюць тлушч і бруд.

Без іх мыйны сродак не быў бы мыйным. Яны застаюцца на паверхні посуду і на скуры рук, калі мы мыем посуд без пальчатак. Да таго ж назапашваюцца ў арганізме і парушаюць нашу імунную сістэму.

Тыя ж рэчывы ёсць і ў складзе пральных парашкоў. У тканіне яны могуць захоўвацца да чатырох дзён. Што ж рабіць, каб посуд быў чысты і бяспечны?

– Ёсць два варыянты, – адказвае на пытанне Дар’я Чумакова. – Першы радыкальны і не кожнаму будзе пасаваць: замяніць мыйны сродак на сумесь гарчычнага парашку і соды. Другі – больш пільна выбіраць сродак для мыцця посуду. Важна, каб працэнт паверхнева-актыўных рэчываў не перавышаў 10-15%. Пажадана, каб гэтыя рэчывы былі прыроднага паходжання і каб не было аддушак, фасфатаў і фарбавальнікаў. Нагрузка на арганізм ад мыйнага сродку ў такім выпадку не знікне, але знізіцца.

У любым выпадку, мыйны сродак трэба старанна змываць, паласкаючы посуд пад гарачай вадой не менш за 15-20 секунд.

### Меламінавыя губкі: у чым сакрэт цудоўных уласцівасцяў?

Белыя цуда-губкі, што з лёгкасцю змываюць любы бруд з любой паверхні, цяпер можна купіць у кожнай краме. Вытворцы сцвярджаюць, што іх тавар бяспечны для здароўя. У эколагаў свая думка на гэты конт.

– Я не лічу меламінавыя губкі абсалютна бяспечнымі і тым больш экалагічнымі, – заўважае Дар’я Чумакова. – Мне цяжка ўявіць сабе бруд, які нельга адмыць больш маккімі сродкамі. Адзінае выключэнне, дзе, магчыма, выкарыстоўванне губкі апраўдана, – гэта плямы ад ручак і маркераў.

Па-першае, для вытворчасці меламіну выкарыстоўваюць фармальдэгід. Гэта значыць, што фабрыкі-вытворцы не могуць пазбегнуць шкодных выкідаў у ваду і паветра.

Ён можа быць шкодным і для пакупніка, калі той набывае несертыфікаваны тавар: няякасныя губкі маюць непрыемны пах.

Па-другое, меламінавыя губкі дзейнічаюць па прынцыпе сціркі для алоўка: яны фізічна счышчаюць бруд, пры гэты сціраючыся самі. Таму пры выкарыстанні губкі ўтвараюцца дробныя крошкі, нябачныя для вока.

Калі працерці губкай кухонны стол, то крошкі лёгка могуць трапіць у ежу. А гэта ў сваю чаргу можа выклікаць цяжкія захворванні. Напрыклад, камяні ў нырках.

У любым выпадку крошкі ад губкі раней ці пазней патрапяць у каналізацыю, а пасля – у навакольнае асяроддзе.

> **Крошкі ўяўляюць сабой мікрапластык, які ўвогуле не раскладаецца ў навакольным асяроддзі, а толькі назапашваецца. А нявыкарыстаныя кавалкі губкі будуць стагоддзямі ляжаць на звалках.**

– Адна пазнака аб тым, што губку нельга выкарыстоўваць дзецям, – ужо сігнал пра тое, што прадукт нельга назваць цалкам бяспечным, – дадае эксперт. І рэкамендуе звярнуць увагу на іншыя метады барацьбы з плямамі.

### Замяніце “марскі брыз” на адкрытую фортку

Колькасць пахаў для асвяжальнікаў паветра немагчыма палічыць, яны трывала ўвайшлі ў наша жыццё. Але эколагі раяць памятаць аб тым, што мы ўсё роўна ўдыхаем не “марскі брыз” ці апельсінавы водар, а хімічныя рэчывы невядомага паходжання.

Пахучыя хімікаты могуць выклікаць алергію і садзейнічаць развіццю бранхіяльнай астмы. А пры рэгулярным удыханні лятучых рэчываў – бутану, ізабутану, фармальдэгіду і іншых – пачынаюцца галаўныя болі і дэпрэсіі.

– Да таго ж асвяжальнікі часта маюць у сваім складзе бензанат натрыю і нітрыт натрыю, – дадае спецыяліст. – Яны адносяцца да наймацнейшай атруты і могуць выклікаць мутацыю ДНК. Таму мы рэкамендуем адмовіцца ад аэразоляў і выкарыстоўваць цвёрдыя формы асвяжальнікаў.

Існуе шмат куды больш экалагічных спосабаў асвяжыць паветра ў пакоі. Напрыклад, пры дапамозе шклянога слоіка і звычайнай солі. Бяром маленькі слоік, у накрыўцы робім дзірачкі, унутр насыпаем каля 100 грамаў харчовай солі і капаем 8-10 кропляў эфірнага алею з любімым пахам. Для таго, каб напоўніць пакой свежасцю, дастаткова проста патрэсці слоік.

Эксперты зазначаюць, што сапраўды свежым паветра становіцца толькі ад адкрытай форткі. Асвяжальнікі толькі маскіруюць непрыемныя пахі, а скразное праветрыванне цалкам пазбаўляе пакой ад пахаў.

### Прыгадваем, як прыбіраліся нашы бабулі

За шырокім выбарам рознакаляровых бутэлек мы часта забываемся пра тыя сродкі, якімі дзесяцігоддзямі карысталіся нашы мамы і бабулі. Сода, воцат і гарчычны парашок – найбольш натуральных і экалагічна бяспечных рэчываў складана знайсці.

Хтосьці скажа: “навошта гэтыя бабуліны метады, калі на дварэ 21 стагоддзе?”. Але эколагі раяць усё ж у якасці эксперымента паспрабаваць некаторыя з іх: магчыма, яны вам спадабаюцца і ў вашым доме стане меней на адну бутэлечку “хіміі”.

Чысты воцат цудоўна падыдзе для дэзінфекцыі ўнітаза, для чысткі кафлі і пліткі. Пах хутка знікне, калі праветрыць памяшканне. У любым выпадку ўдыханне натуральнага, але не вельмі прыемнага паху воцату куды бяспечней для арганізма, чым удыханне цалкам штучнага “хвойнага лесу”.

Соду можна выкарыстоўваць для чысткі алюмініевых, срэбраных, бляшаных і пластыкавых паверхняў.

Яна добра прадэзінфіцкуе халадзільнік і ачысціць чайнік ад накіпу. Посуд добра адмыецца гарчычным парашком – вядома, калі гэта не бляха з засохшым тлушчам, а звычайны посуд штодзённага карыстання.

– Зразумела, што цалкам адмовіцца ад бытавой хіміі немагчыма, – падсумоўвае Дар’я Чумакова. – Але можна вызначыць для сябе яе мінімальны аб’ём , каб не даваць “хіміі” адмоўна ўплываць на наша здароўе і здароўе нашых блізкіх.




**Для здароўя сям’і варта задумвацца не толькі пра чысціню, але і пра экалагічнасць чысціні.**

### Як зрабіць сваю кухню больш экалагічнай. Парады экспертаў

① Пазбягайце папяровых ручнікоў, выкарыстоўвайце іх з тканіны. Калі ўсё ж без папяровых ніяк – выбірайце пераапрацаваную, неадбеленую паперу. Тое ж тычыцца туалетнай паперы.

② Выбірайце шматразовыя губкі, швабры і анучы з натуральных матэрыялаў.

③ Старайцеся выбіраць мыйныя сродкі з афіцыйнай экалагічнай маркіроўкай.

④ Аддавайце перавагу тым сродкам для мыцця посуду і тым парашкам, дзе колькасць паверхнева-актыўных рэчываў (па-руску ПАВ) не перавышае 10-15%.

⑤ Цалкам адмоўцеся ад асвяжальнікаў паветра ў форме аэразолю.

⑥ Паспрабуйце карыстацца натуральнымі сродкамі для ўборкі ў кухні – содай, гарчычным парашком і воцатам.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
**E- mail:** alesia.ptushka@gmail.com

## Садок у Ашмянах можа ўдвая скараціць энергаспажыванне

АШМЯНЫ

**23 верасня ў Ашмянах урачыста адкрылі энергаэфектыўныя яслі-сад №6 пасля мадэрнізацыі.**

Яе правялі ў межах праекта "Энергаэфектыўнасць у школах". Праект працуе пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага саюза, Гродзенскага аблвыканкама і Ашмянскага райвыканкама. Выканаўцы праекта – Праграма развіцця ААН (ПРААН) у Рэспубліцы Беларусь і Дэпартамент па энергаэфектыўнасці Дзяржстандарту Рэспублікі Беларусь.

Гэта ўжо другі на Гродзеншчыне аб'ект праекта "Энергаэфектыўнасць у школах", які адкрываецца пасля энергаэфектыўнай мадэрнізацыі. За тыдзень да гэтага ў Гродне ўрачыста адкрыліся яслі-сад №45, мадэрнізаваныя па аналагічнай тэхналогіі.

Сёння дзіцячы сад у Ашмянах сустракаў шматлікіх гасцей. Да ўрачыстага моманту адкрыцця ўваход у яго перагароджаны чырвонай стужачкай. Але вось яна перарэзаная, і загадчыца сада **Марына Мельнікава** запрашае гасцей у абноўлены будынак. Ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця прынялі ўдзел намеснік кіраўніка апаратыўнага аддзела праектаў і праграм Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі **Аўдроне Урбанавічуце**, намеснік старшыні Дзяржкамітэта па стандартызацыі – дырэктар дэпартамента па энергаэфектыўнасці **Міхаіл Малашанка**, каардынатар праектаў ПРААН **Ігар Чульба**, старшыня Ашмянскага райвыканкама **Міраслаў Сарасек**, намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта **Алег Рахунок**.

Спецыяльна для гасцей – экскурсія па абноўленым будынку. Ім паказалі новае абсталяванне ў харчаблоку, памяшканні, басейн. На даху ўстаноўленыя сонечныя калектары, змантаваныя ўтылізатары цеплыні для падагрэву прытокавага паветра, уцепленыя сцены і дах, звычайныя вокны заменены на двухкамерныя шклопакеты.

Акрамя гэтага, правялі замену энергаёмістага тэхналагічнага абсталявання кухні, лямпы напальвання замянілі на энергазберагальныя, за ацяпляльнымі прыборамі ўстанавілі цяплоадбівальныя экраны.

**Усе гэтыя меры даюць магчымасць скараціць энергаспажыванне ў два разы.**

Але акрамя тэхнічных мерапрыемстваў не менш важны і іншы бок праекта. Хлопчыкі і дзяўчынкі з дашкольнага ўзросту вучацца берагчы і эканоміць энергарэсурсы. І гэта выдатна прадэманстравалі гасцям дашкольнікі ў зале, паказаўшы невялікае прадстаўленне. Даступна, весела яны расказалі пра важныя рэчы.

Гэта адна з формаў заняткаў з дзецьмі – для іх на энергаэфектыўную тэму ладзяць ранішнікі, пазнавальныя гульні, экскурсіі і конкурсы. Дзеці выступаюць перад бацькамі і гараджанамі.

На памяць аб мерапрыемстве маленькія ўдзельнікі ўрачыстасці атрымалі ад гасцей падарункі.

Але галоўны падарунак – гэта сучасны дзіцячы сад, у якім дзеткам утульна і цёпла.

Наталія ВАЛЫНЕЦ.

## Канцэрт да 110-годдзя Дзмітрыя Шастаковіча адбыўся ў касцёле на Мядзельшчыне

МЯДЗЕЛ

Канцэрт, прысвечаны 110-годдзю з дня нараджэння выдатнага кампазітара 20 стагоддзя Дзмітрыя Шастаковіча, адбыўся 25 верасня на радзіме яго продкаў у вёсцы Шэметава Мядзельскага раёна.

Дзмітрый Шастаковіч нарадзіўся 25 верасня 1906 года ў Санкт-Пецярбургу. Прадзед кампазітара па бацькоўскай лініі Пётр Міхайлавіч Шастаковіч з'явіўся на свет у Шэметаўскай парафіі Віленскай губерні.

Ініцыятарам і галоўным арганізатарам гэтага дзіўнага мерапрыемства стаў француз беларускага паходжання, вядомы еўрапейскі оперны спявак, прэзідэнт Французскай асацыяцыі "Абмен: Францыя-Беларусь" **Аркадзь Валадось**.

На канцэрце прагучалі струнны квартэт №3, элегія, полька, прэлюдыя і скерца.

Паводле БелТА.

# Моладзевы фестываль ART-HAUSE:
## сярод пераможцаў – прадстаўнікі рэгіёна




Антон Грыгор'еў з членамі журы ў намінацыі "Рэп". Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ

**Што такое бітбокс? Ці жыве на Беларусі рок? Чым сёння захапляюцца творчыя маладыя людзі? Адказы можна было знайсці 24 верасня на V рэгіянальным фестывалі творчай моладзі ART-HAUSE ў Маладзечне.**

Удзельнікі з Брэста, Баранавічаў, Смаргоні, Вілейкі, Мінска, Светлагорска, Барысава, Маладзечна, Пінска, Любані Вілейскага раёна на працягу дня паказвалі сваё майстэрства гледачам і членам журы.

Конкурс арганізавалі ў чатырох намінацыях: "Рэп", "Рок", "Брэйкданс" і "Бітбокс".

– Я бітбаксёр **Дзмітры Пруднікаў**, – прадставіўся малады чалавек з Мінска. – Бітбоксам займаюся нядаўна і непрафесійна. Мая асноўная прафесія звязаная з піламатэрыяламі. Бітбокс – проста захапленне. Нягледзячы на тое, што не перамог, уражанні добрыя. Ёсць на каго раўняцца.

А тыя, каму пашанцавала больш, чым Дзмітрыю, атрымалі ўзнагароды і паказалі сваё майстэрства на галоўнай сцэне Палаца культуры. Тут зладзілі гала-канцэрт.

У намінацыі "Рэп" перамог спявак Sun Lightbacks (**Антон Грыгор'еў**) з Маладзечна. Малады чалавек чытае рэп на англійскай мове. Тэксты піша сам.

– Бітбокс – пяты элемент хіп-хоп культуры. У Беларусі ён толькі набірае абароты, – расказала ўсім недасведчаным, і мне ў тым ліку, вядучая **Лізавета**.

Бітбаксёры выконваюць музычную кампазіцыю, утвараючы ротам своеасаблівыя гукі. Кажуць, каб займацца бітбоксам, трэба мець жаданне і... рот.

У гэтай намінацыі перамог прадстаўнік нашага рэгіёна Shkipper (**Павел Траскоўскі**) са Смаргоні. Дыплом лепшаму бітбаксёру ўручыў **Барыс Капітанаў** – пачынальнік бітбокса на Беларусі.

**Больш за 40 удзельнікаў прадставілі сваю творчасць у намінацыі "Брэйкданс".**

Гэты накірунак хіп-хоп культуры прадстаўнік журы **Дзмітры Зінкевіч** назваў адным з самых яркіх.

– Прыемна глядзець на хлопцаў і прыгадваць сваю маладосць, – падзяліўся Дзмітры.

У брэйкдансе лепшымі сталі мінчане. У катэгорыі "Сола да 16 год" перамог bboy Think (**Мікіта Цінкевіч**). А ў катэгорыі "2Х2" – гурт Conquistador.

Спецыяльны прыз за арыгінальнасць і тэхнічнасць у намінацыі выканання "Рок" атрымаў **Андрэй Капцюг** з Любані. А перамог віляйчанін **Тарас Апарык** і яго гурт "Планета ўсіх". Тарас не толькі спявак, а яшчэ і паэт. Яго вершы на беларускай мове друкаваліся ў "Рэгіянальнай газеце" ў праекце "Літпарад Павілля".

У іншым складзе гурт удзельнічаў у фестывалі ў 2006 годзе:

– Але тады мы ніякіх дыпломаў не ўзялі. Было шмат перспектыўных гуртоў.

**Сёння ж нам прыемна, што ёсць хоць нехта, каму патрэбная жывая рок-музыка.**

Для гледачоў і пераможцаў спяваў гурт "План эвакуацыі" і хіп-хоп выканаўца **Муравей**, танцавалі дзяўчаты з калектыву "Візаві", паказалі майстар-класы прадстаўнікі журы.

Сярод гледачоў было шмат маладых людзей з рэгіёна. Жыхару вёскі Касцюшкі на Маладзечаншчыне **Пятру Харытону** нядаўна споўнілася 18.

На свяце роднай вёскі старшыня Красненскага сельсавета **Валянціна Кісель** разам з іншымі падарункамі ўручыла білет на гала-канцэрт. Пётр прызнаўся, што на падобным мерапрыемстве ён першы раз.

Аксана ЯРАШОНАК.

Больш фота на сайце Rh.by

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

**166**

**Рэгіянальная газета.** Rh.by Тэлетыдзень **ТРАНСПАРТ**

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

**Вечерний Бобруйск**

## ВІНШАВАНКА

### З Днём настаўніка!

**Дар'і Аляксандраўне Снежка, Юліі Анатольеўне Сянько, Еўгеніі Канстанцінаўне Рафаловіч з Маладзечна.**



Няхай у жыцці ўсё атрымліваецца, у класе будзе больш старанных вучняў. Моцнага здароўя і добрага настрою.

*Осенний дождь*
*за окнами сияет,*
*И солнце расцвело*
*на небосводе.*
*И каждым утром вы,*
*детей встречая,*
*Не думаете о своей работе.*
*Что там работа –*
*это ваша жизнь!*
*Оставив где-то там*
*плохое настроенье,*
*Вы в класс вошли –*
*и вновь взметнулись ввысь*
*Бессмертных Гоголя*
*и Пушкина творенья.*
*Идут за днями дни, вечера,*
*года,*
*Но верьте: в детских душах*
*навсегда*
*Души частица вашей*
*доброты осталась.*

**Косця ЛЯПЦЮК, 5 "В" клас, СШ №2.**

### З Днём настаўніка!

**Кацярыне Андрэеўне Мацкевіч, Аксане Станіславаўне Шасцілоўскай, Жанне Мечыславаўне Бітэль, Тацццяне Міхайлаўне Апяцёнак.**



Няхай у вашых душах і сэрцах з часам не згасне агеньчык любові да дзяцей, прага падарыць свае веды, а, наадварот, разгараюцца з новай сілай.

*В день октябрьский,*
*когда у порога*
*Задышали уже холода,*
*Школа празднует*
*день педагога –*
*Праздник мудрости, знаний,*
*труда.*
*День учителя –*
*вслушайтесь сердцем*
*В эти звуки, что дороги нам,*
*Всё, что связано с юностью,*
*с детством,*
*Мы обязаны учителям.*

Особая ўдзячнасць першай настаўніцы – **Святлане Іванаўне Сушко.**

**Косця ЛЯПЦЮК, 5 "В" клас, СШ №2, Маладзечна.**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтапрычэп вялікай грузапад'ымальнасці. Т. (8-029) 1536728.
- ВАЗ-2105, 1984 г.в, цёмна-сіні, тэхнічна спраўны, моцны кузаў. Рухавік і падвеска без праблем. Цана 1200 руб. Т. МТС (8-029) 5511138.
- ВАЗ-2106. Цана пры аглядзе. Т. (8-029) 2521100.
- ВАЗ-21063, 1989 г.в, светла-бежавы. Т. (8-029) 1798400.*
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- Мазда-626, універсал, 1993 г.в. Т. (8-033) 6002188.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Пежо-Эксперт, 2009 г.в, Т. Вэлком (8-029) 1199063.
- Пежо 307, 2003 г.в, 2,0 дызель, серабрысты, універсал. Т. (8-029) 1254463.
- Рэно-Велсатыс, 2003 г.в, 2,2Д, колер хамелеон, 7500 руб.Т. (8-029) 7046266.*
- Рэно-19, 1994 г.в., 1,7Б. Мядзел. Т. (8-044) 7383788.
- Таёта-Карола, 1999 г.в, 2,0Д, 4 л на 100 км, 3999 руб. Т. (8-029) 6575486, (8-029) 8417340.*
- ФВ Т2, грузапасажырскі, 1992 г.в, 1,9Д. Т. МТС (8-029) 2557514.*
- ФВ-Пасат, 1993 г.в, 1,9 ТД, усе опцыі, чорны металік, прабег 215000 км, з 2002 года адзін гаспадар. Т. (8-044) 7498937.





- Ява-350, 1972 г.в, 6 Вольт, (старушка). Т. (8-044) 4703638.
- 3/часткі да ФВ-Пасат Б3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто ў любым стане. Дорага! Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н "Зеніт", агульная плошча 36,2 кв.м. Т. (8-029) 3313413.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Маркава, 30 кв.м, выгоды частковыя. Т. (8-029) 8766082.*
- 1-пакаёвая кватэра ў цагляным 4-павярховым доме ў цэнтры горада. 2 паверх 39/19/9, лоджыя – 6 кв. м. Санвузел сумешчаны, без рамонту. У доме магазін. Вілейка. Т. (8-029) 2746195.*
- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 1139658.*
- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Смаргоні, 2/5. Т. (8-029) 8761540.*
- 2-пакаёвая кватэра з усімі выгодамі ў а.г. Людвінова Вілейскага р-на, агул. плошчай 46,8 кв.м. Т. (8-029) 3345498.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т (8-029) 3745706.*
- 3-пакаёвая кватэра ў аг. Любань. Т. (8-033) 6362026, (8-029) 1212627.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Валынца 6-а, (59,2/5,9/41,6), 3/5К, с/в раздзельны, балкон, падвал, мэбля. Т. (8-029) 6627887.
- 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні. Т. (8-01592) 41967, (8-029) 3073122.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж 6х4 м у Вілейцы ГК "Антэй". Т. (8-029) 1130550.*
- Гараж у ГК №24 (ГАЦ "Модуль") у Маладзечне. Т. (8-029) 3605237, (8-029) 8726641.
- Дача двухузроўневая ў с/т "Завелле" на беразе Віліі, сасновы лес. Дом цагляны, унутраная аздзелка вагонкай. Агароджаная сеткай-рабіцай. Парніка і лазні няма. Нядзёшава. Т. (8-029) 7839557.
- Дачны ўчастак "Медык плюс" у в. Пісараўшчына, с/с Мясата, уч. №62, вул. Падгорная. Ёсць невялікі хлеў, сад, кусты, водаправод. Т. (8-0176) 545782.
- Дом драўляны 74 кв. м на хутары ў в. Свяцілавічы Смаргонскага р-на Гродзенскай вобласці, вялікі сад, побач лес, возера. Т. Вэлком (8-029) 1110563, (8-01771) 27032.*
- Дом драўляны з участкам 15 сотак у Мядзеле, зав. Набярэжны. Паравое ацяпленне. 63/47, 200 м ад возера Мястра, 24 тыс. руб. Торг. Т. (8-029) 6111663.
- Дом драўляны ў в. Гарадзькі Валожынскага р-на. Участак 21,5 сотак. Падвал 17 кв.м. Агульная плошча 63 кв. м. У двары калодзеж. Т. (8-044) 4586050, (8-044) 4586051.*
- Дом драўляны ў Мядзеле з уцепленай мансардай. Усе цэнтральныя камунікацыі. Гаспадарчыя пабудовы. Участак 8 сотак. Т. (8-029) 1900167.*
- Дом жылы ў Вілейцы па вул. Стаханаўскай, 249. Т. (8-029) 7656724, (8-01771) 51658, (8-01771) 26453.
- Дом жылы драўляны ў добрым стане, 30 сотак, ёсць склеп, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы, 8 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 3641985 Вэлком, (8-017) 3931132 (хатні).*
- Дом з гаспадарчымі пабудовамі ў в.Бальцары Маладзечанскага р-на. Т. (8-0176) 547243, (8-029) 3304608.
- Дом у в. Любань. Т. МТС (8-033) 6026288.*
- Дом у Вілейцы па вул. Камсамольскай. Т. (8-029) 7005039.*
- Дом у Вілейцы па вул. Лаўрыновіча, 5. Т. (8-029) 2852295.*
- Дом у Вілейцы па вул. Мірнай,15. Т. МТС (8-029) 2574576.
- Дом у Маладзечне; выгоды, газ, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом у Радашкавічах па вул. Савецкай, 85. Ёсць газ, электрычнасць, вада, гаспадарчыя пабудовы. Агульная плошча 70 кв.м. Участак 16 сотак. Т. (8-025) 7743329.*

### ЗДАМ

- Міні-кафэ па вул. Ф. Скарыны ў Маладзечне. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977. Т. (8-029) 5551515.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Для некаторых яна была сямейным настаўнікам

ВІЛЕЙКА

**Як і многія дзяўчаты, Ларыса Паўловіч з дзяцінства марыла стаць настаўніцай. Ёй падабалася расказваць малодшым за сябе нешта цікавае, гуляць у школу. Аднак дзіцячая гульня перарасла ў прафесію, якой яна прысвяціла 40 гадоў.**

Рускасельскую сярэднюю школу яна скончыла амаль "на выдатна" – з адной чацвёркай па хіміі. Аднак пры паступленні не прайшла па конкурсе.

Тады дырэктар школы **Мікалай Анціпенка** запрасіў працаваць старэйшай піянерважатай у родную школу. Так былая вучаніца стала калегай для сваіх жа настаўнікаў на тры гады.

– Пасля паступіла ў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Горкага на завочнае аддзяленне па спецыяльнасці педагогіка і методыка пачатковага навучання, – раскажае Ларыса Паўловіч. – Цяжка было вучыцца і працаваць, аднак выкладчыкі і настаўнікі з роднай школы падбадзёрвалі, упэўнівалі, што ўсё атрымаецца.

Пасля трох гадоў працы піянерважатай Ларыса выйшла замуж. Прыйшлося пераехаць і памяняць месца працы. Спачатку ўладкавалася ў Кавалёўскую васьмігадовую школу выхавальніцай падоўжанага дня, затым у школьны інтэрнат, а пасля працавала настаўніцай пачатковых класаў.

Працавала яна настаўніцай пачатковых класаў у Любанскай школе, затым у Асіпавіцкай.

### "Чаму можа навучыць гэта дзіцё"

– Першы дзень, калі ішла ў школу настаўніцай, быў аднначасова і ўрачыстым, і хвалюючым, – раскажае жанчына. – Страшна было, як сустрэнуць вучні, дзеці таксама перажывалі.

> **Але, як аказалася, больш за ўсіх хваляваліся бацькі за дзяцей, калі ўбачылі маладую настаўніцу: чаму можа навучыць гэтае дзіцё горкае, яе яшчэ саму вучыць трэба.**

Аднак я адказна ставілася да працы, таму бацькі хутка ўпэўніліся, што дзеці атрымаюць трывалыя веды.

Жанчына ўпэўненая, што першы настаўнік закладвае падмурак ведаў, ад яго залежыць, як у далейшым дзіця будзе адносіцца да вучобы, які шлях абярэ.

> **Як, напэўна, і ў любога настаўніка, у яе былі любімчыкі. Аднак у класе нікога не выдзяляла. Слабейшых па вучобе падтрымлівала, шмат працавала з імі дадаткова.**

У некаторых сем'ях Ларысу Паўловіч лічылі сямейным настаўнікам. Бо некаторых дзеці аддалі праз некаторы час ужо сваіх дзяцей вучыцца да сваёй першай настаўніцы.

**Яўген ЧАРНЫШОЎ,**
**Вілейка.**


Фота Яўгена ЧАРНЫШОВА

Ларыса Паўловіч прысвяціла прафесіі настаўніка 40 гадоў.

## Парады для маладых настаўнікаў

1. Хваліце вучня за поспехі.
2. Захоўвайце пачуццё гумару.
3. Не стаўцеся да школы проста як да месца працы.
4. Будзьце гатовыя да вялікага аб'ёму працы, асабліва ў першы год. Але не сумнявайцеся, што ваша майстэрства будзе расці і паступова ваша праца будзе станавіцца менш складанай і больш эфектыўнай.
5. Не перажывайце, што не паспяваеце зрабіць усё і адразу. Праца настаўніка адрозніваецца тым, што зрабіць усю работу проста немагчыма.
6. Плануйце свой час.
7. Не саромейцеся задаваць пытанні больш дасведчаным настаўнікам.
8. Атрымлівайце задавальненне ад працы з дзецьмі і іх бацькамі.

Радуйцеся поспехам, але памятайце, што пражыць без няўдач немагчыма.

9. Заставайцеся самім сабой.
10. Развівайцеся і ўдасканальвайце свае веды ўвесь час, расціце разам з вучнямі.

НЕПРЫЧАСАНЫЯ МЕМУАРЫ

# Парадніўся ў Вілейцы

**Успаміны кіраўніка групы падрыўнікоў брыгады імя Фрунзе ураджэнца Краснадарскага краю Максіма Міронавіча Фралова, 1912 года нараджэння. Працаваў шафёрам у Вілейцы. Узнагароджаны ордэнам Славы. Пераклад на беларускую мову і загалоўкі рэдакцыі. Гэты фрагмент запісу ўспамінаў, зробленых Сымонам Барысам у 1974-75-м гадах. Раней нідзе не публікаваўся.**
*** Як партызаны разам з паліцэйскімі з Ільі разам бункер нямецкі захапілі.**
*** Як чэху Янэку Павуку куля ледзь галаву не знесла.**
*** Хто рыбгас у Глінным падарваў.**
*** Баі ў Абадоўцах і Альковічах.**



Партызаны мініруюць чыгунку. Фота часоў Другой сусветнай вайны.

Працяг. Пачатак у №39.

Мая група падрыўнікоў была ў атрадзе імя Варашылава. Сябраваў я з Васілём Шпагіным. Ён таксама акружэнец і збег з лагера ваеннапалонных у Мінску. Мы з ім разам хадзілі выконваць баявое заданне на "жалезку". Васька любіў спяваць песні і за гэта яму іншы раз давалі лішнюю порцыю пры прыёме ежы.

### Паліцэйскія сігнал праспалі

Неяк нашы партызаны дамовіліся з паліцэйскімі з гарнізона Ілья, што яны пяройдуць да нас. Іх там было шмат: больш за немцаў. Было вырашана з іх дапамогай разграміць гэты гарнізон. Па сігнале чырвонай ракеты паліцыянты страляюць па немцах, а партызаны з другога боку б'юць па нямецкім бункеры. І захопліваюць яго, а потым, узяўшы трафеі, усе сыходзяць у лес.

Мы зайшлі ў двор аднаго дома ў гэтым мястэчку, але нас заўважыла гаспадыня, пайшла ў паліцэйскі бункер і кажа: "У мястэчку ўжо партызаны". А яны заяўляюць: "Праспалі мы ўсё. І ракету не заўважылі".

Гэтыя паліцэйскія падпалілі свае матрацы, запалілі бункер і да рэчкі, а адтуль – у лес. А немцы з астатнімі паліцэйскімі, як часанулі па нас у лесе, то мы ледзь уцяклі. Адтуль 40 паліцэйскіх перайшлі да нас і нядрэнна ваявалі. У нашай брыгадзе паліцэйскіх па недаверы не расстрэльвалі.

Аднойчы я вяртаўся пасля выкананага задання з-пад мястэчка Жодзішкі з чэхам Янэкам Павуком. Мы ехалі на трох фурманках, якія ўзялі ў мясцовых жыхароў. Раптам ён кажа мне: "Хто-то чшэліл" (Хтосьці стрэліў.) Ён паказвае мне сваю фуражку. Куля прабіла яе, ледзь галаву не зачапіла. А стрэлу і не было чуваць. Павук вырашыў, што нехта па нас з бясшумнага пісталета стрэліў. Справа была днём, і сонца яшчэ было высока. Мы нікога не бачылі, але нехта нас бачыў.

Мы перасеклі дарогу Вілейка-Смаргонь і паехалі ў Ардзяю. Там нашых партызан не засталі. Нам паведамілі, што яны сышлі пад Вішнева. Мы трапілі ў партызанскі атрад "Савецкая Беларусь" брыгады Маркава. Яны сказалі нам, што іх абстралялі з танкаў у Ганюце.

### Дыверсіі на чыгунцы

Мая група займалася дыверсіямі на дарогах. Чыгунка каля Вілейкі і Маладзечна ўзмоцнена ахоўвалася. У нас здараліся страты. Каб здзейсніць дыверсію без страт, мы вырашылі пайсці далей ад сваёй базы, пад Вільню. Ішлі пешшу, але гэта ж далёка, каля 100 кіламетраў. І міны трэба несці.

**Мы вырашылі ўзяць у багатых коней. У каго двое коней, то мы аднаго забіралі.**

Так мы ўзялі каля 40 коней, у асноўным жарабцоў і тры кабылы. Праз Вілію мы пераехалі ў Смаргоні. Жарабцоў вырашылі папасвіць разам з мясцовымі конямі. Але некаторыя ад нас ўцяклі.

Калі мы рабілі яшчэ адну пераправу каля Асіпавічаў, калі вярталіся назад, то і тут ад нас коні ўцяклі. Напэўна, яны дадому збеглі, калі ім дарога знаёмая. Такім чынам, коней мы не прывялі на сваю базу.

Раптам пачулі страляніну. Гэта немцы заўважылі другую групу партызан. Нас яны чамусьці не заўважылі і прапусцілі.

За адзін тыдзень, калі мы хадзілі пад Вільню, узарвалі пяць эшалонаў. Дзве міны немцы паспелі зняць. Потым шнурамі для выбухаў мы не карысталіся. Каб захаваць паравоз, немцы наперадзе яго гналі платформу з пяском.

Мы самі рабілі міны. Бралі тол, закладвалі ў скрыню пяць кілаграмаў, шашку, капсуль са спружынным выбухоўнікам і чакой.

Аднойчы я з групай шэсць чалавек пайшлі да чыгуначнага пераезда, які за вёскай Глінная.

Прыйшлі да дарогі да 6 гадзін раніцы, а да 8 гадзін раніцы ўжо эшалон з афіцэрамі і салдатамі жахнулі. Дні тры абломкі прыбіралі.

Недзе там у раёне быў рыбгас. Далі заданне рыбаку выбраць ваду са става, каб потым пусціць ваду.

У Чырвоным Беражку ў Пеці Валынца, у майго сувязнога, быў ручны кулямёт. Я ведаў пра гэта і паслаў партызан Андрэя, Сяргея і Сашку Субачаў з Гліннага, каб яны забралі яго. Яны пайшлі і сказалі, што Сарафін, так мяне называлі партызаны, загадаў, сказаў забраць кулямёт.

Ён быў сапсаваны, але мы яго адрамантавалі ў суседняй брыгадзе і выпрабавалі. З ім мы пайшлі на шашу, але ён нас падвёў. Выйшлі на гасцінец, залеглі і чакаем. Ідзе грузавая аўтамашына, я махнуў: не чапаць. Ідзе легкавая аўтамашына – згодны. Націскаю на курок кулямёта – заела. Мы машыну з аўтаматаў абстралялі. Афіцэры пабеглі, а машына юзам-юзам і з'ехала ад нас.

**Потым мы падышлі да плаціны, падклалі тол і ўзарвалі яе. Вада пайшла мыць дарогу. Знішчылі і корм для рыбы. Усю рыбакоўку (рыбгас) разграмілі.**

### Не ўсё была ўдача

Не заўсёды была ў нас ўдача. Аднойчы мы напалі на гарнізон Абадоўцы. Туды ў вёску мы адправілі шасцёра чалавек. Часавы павінны быў іх прапусціць. Пералазілі праз плот, і ў аднаго партызана стрэліў аўтамат. Гэта сарвала нашы планы. Мы тады падышлі бліжка да гарнізона, а немцы па нас з ПТР стралялі. Мы там змаглі толькі быдла ўзяць. А нашага разведчыка Мікалая Зорына забіла. Яго пахавалі ў вёсцы Навасёлкі.

Няшчасны выпадак здарыўся каля вёскі Альковічы. Мы паставілі на дарозе міну і сталі падмятаць дарогу, каб нябачная была. А яна як рванула, то аднаго з нашых забіла, двух цяжка параніла, а яшчэ адзін – аслеп. Параненых адправілі за лінію фронту, на Вялікую зямлю.

Нам паведамілі, што ў Вязынь паехалі нямецкія танкеткі і машыны. Партызаны замініравалі дарогу і чакаюць. Але немцы таксама не дурні. Яны прымусілі сялян наперадзе сябе гнаць авечак і кароў. Як пачалі рвацца міны – жывёлу ў бакі. Скуры авечак на дрэвах павіслі. Немцы таксама напалохаліся: ад страху ўсю дарогу да самай Вілейкі па лесе стралялі. Яны часта практыкавалі баранаванне дарогі, каб не было мін. Прымушалі вясковых мужчын баранаваць дарогу. Іх яны не шкадавалі.

Калі я вярнуўся з-пад Вільні, мы зрабілі завалы ў лесе па дарозе, каб нельга было праехаць да нашай базы. Толькі адышлі ад дарогі, чую страляюць. Гэта немцы з Ільі ўзброілі вінтоўкамі 129 вясковых мужыкоў і адправілі ў партызанскую зону на Мардасы, каб яны там парабавалі. Мы іх лёгка разагналі.

**А аднаго ўзялі ў палон і прывялі ў Мардасах да камісара Чарапанава. Ён сказаў яго расстраляць ў агародзе.**

Гэта быў селянін з вёскі Кавалі. Потым мы зладзілі засаду. Спадзяваліся, што ўначы прыедуць забіраць труп. Праседзелі ў засадзе цэлую ноч. Вырашылі раніцай сысці, а яны па нас як пачалі біць з мінамётаў. Мы ў бакі. Усякіх выпадкаў было.

**Запісаў Сымон БАРЫС.**

**Заканчэнне будзе.**

**Чытайце ў заканчэнні:**
*** За што паважалі партызанскага камандзіра Яўгена Міранавіча, які стаў пазней кіраўніком славутага саўгаса "Любань".**

КАЛЯНДАР

## 30 КАСТРЫЧНІКА

**85 гадоў** з дня нараджэння Ніла Гілевіча (1931), беларускага паэта, літаратуразнаўцы, фалькларыста, перакладчыка, народнага паэта Беларусі, грамадскага і палітычнага дзеяча, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы (1980) за кнігу паэзіі "У добрай згодзе" і перакладчыцкую дзейнасць і Міжнароднай прэміі імя Х. Боцева (1986) за рэвалюцыйную паэзію і публіцыстыку. Ганаровы грамадзянін балгарскага горада Враца. Памёр сёлета 29 сакавіка, пахаваны на Кальварыйскіх могілках.

## 1 КАСТРЫЧНІКА

**Дзень пажылых людзей.**

**135 гадоў** з дня нараджэння Міхаіла Станюты (1881 – 1974), беларускага жывапісца, партрэтыста, графіка, педагога. Бацька беларускай савецкай актрысы Стэфаніі Станюты.

## 2 КАСТРЫЧНІКА

**Дзень настаўніка.**

## 4 КАСТРЫЧНІКА

**40 гадоў** назад (1976) памёр Юльян Сергіевіч, беларускі паэт, настаўнік, самадзейны мастак. Нарадзіўся ў вёсцы Юраўшчына Ашмянскага павета, цяпер Маладзечанскі раён. Вобраз Юльяна Сергіевіча стаў прататыпам аднаго з герояў рамана Янкі Брыля "Птушкі і гнёзды", таксама вобраз яго як настаўніка створаны ў кнізе польскага празаіка Збігнева Жакевіча "Воўчыя лугі". Пахаваны ў вёсцы Ленкаўшчына Маладзечаншчыне.

## 6 КАСТРЫЧНІКА

**140 гадоў** з дня нараджэння (1876) Яна Булгака, беларускага і польскага майстра мастацкай краязнаўчай фатаграфіі, "бацькі польскай фатаграфіі", аднаго з піянераў польскай мастацкай фатаграфіі, этнографа, фалькларыста.

У верасні споўнілася **120 гадоў** з дня нараджэння Івана Таміліна (1896 – 1941), удзельніка вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 годзе, савецка-фінляндскай вайны 1939-40 гадоў. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Са студзеня 1941 года першы сакратар Маладзечанскага райкама партыі. У пачатку Айчыннай вайны быў адным з арганізатараў эвакуацыі ў савецкі тыл прадпрыемстваў і ўстаноў, абароны горада. 25 чэрвеня 1941 года пры выездзе з горада наткнуўся на калону нямецка-фашысцкіх захопнікаў, уступіў з імі ў бой і загінуў. Яго імем у Маладзечне названая вуліца.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Будзеце сустракаць мужа з качалкай, знойдзецца тая, што сустрэне з усмешкай

МАЛАДЗЕЧНА

**"Рэгіянальная газета" завітала да жыхаркі Краснага Любові Сірыські ў той момант, калі на пліце кіпелі манты, у каструльцы замешвалася цеста на пірагі, у халадзільніку таміліся рулеты, а ў духоўцы гатаваліся сочнікі.**




Любоў Сірыська (справа) са сваёй пляменніцай Ясеніяй.

Любоў Васільеўна рыхтавалася да свайго 65-годдзя.

– Гасцей будзе няшмат, толькі самыя блізкія – 27 чалавек.

У Любові Сірыські чацвёра дзяцей, 10 унукаў і двое праўнукаў.

– Яшчэ адзін праўнук на падыходзе.

Любоў Васільеўна шмат гадоў працавала поварам, многа дзе ездзіла. Таму і меню на яе святочным стале будзе з розных краў свету.

Так, напрыклад, у халадзільніку ўжо гатовая яўрэйская пастрама, манты з Азіі, узбекская нацыянальная страва – ханум. Рэцэптам ханума Любоў Сірыська падзялілася з нашымі чытачамі.

**Каб прыгатаваць ханум, трэба раскачаць цеста, як на пельмені, на яго пакласці пароўну фаршу, бульбы, цыбулі, загарнуць, каб атрымаўся рулет паўмесяцам і гатаваць на пары.**

Любоў да кулінарыі, прызнаецца жанчына, у яе ад бацькі, які быў поварам. А таксама іграў на скрыпцы і на гітары. А ад маці ў Любові Васільеўны любоў да спеваў і да кветак. Агарод гаспадыні з Краснага двойчы станавіўся лаўрэатам конкурсу "Стыль. Гармонія. Прыгажосць", за самае прыгожае афармленне падворка.

Аднак не толькі падворкам заняты час Любові Васільеўны, побач з ёй, тут жа у Красным, жывуць усе дзеці і унукі.

– Пасля школы дзеці ідуць да мяне. Адразу з парога крычаць: "Бабуля, у нас ёсць катлеты?" А што тут казаць пра выхадныя! Унукі і праўнукі шумныя, актыўныя. А вечарам, калі начуюць у мяне, просяць, каб я ім спявала калыханку з фільма "Доўгая дарога ў дзюнах". Пакуль усіх дзяцей не "пераспяваю", не заснуць.

Так павялося ў сям'і, што і Любоў Васільеўна, і яе маці, і потым дачка браліся шлюбам у 18 гадоў.

– Першы муж рана памёр. А з другім ужо жывём 35 гадоў. Вядома, не ўсё гладка, але муж такі чалавек, які сам ні разу не папрасіў прабачэння. Заўсёды першая іду мірыцца я.

А пазнаёмілася Любоў Сірыська з мужам вось як.

Працавала яна тады ў будаўнічай арганізацыі. Ужо пасля муж Любові Васільеўны расказваў, што ўпершыню і ўбачыў яе на працы.

– Мы фарбавалі дзіцячы садок. Каб дастаць да патрэбнага месца, мяне калегі ўзялі за ногі і спусцілі ўніз галавой. У гэты час будучы муж праходзіў побач. І падумаў: "Во якая бясстрашная дзяўчына, трэба жаніцца".

Потым яны сустрэліся ў гасцях.

– А ён мне не спадабаўся, я адразу мянушку яму дала: шэра-бура-малінавы. Бо вусы былі каштанавыя, валасы – русыя, а бровы і павейкі – белыя. Але ў гасцях пасадзілі нас побач. Налілі ў чарку віна, а я не п'ю, і ён таксама. Прапанаваў раздзяліць віно на дзве чаркі. Так і атрымалася: думалі, што дзелім віно, а аказалася, раздзялілі ўсё жыццё на дваіх.

А потым выбраннік Любові Васільеўны праводзіў яе дадому.

– Папрасіў нумар тэлефона. Сказала. Каб не забыцца, запісаў яго шклом на плоце сяброўкі, у якой былі ў гасцях. Але падумаў, што на раніцу не знойдзе гэтай штыкецiны, таму перапісаў ён жа шклом на семачку гарбуза. Праз многа гадоў я знайшла тую семачку ў шкатулцы.

Цяпер, праз 35 гадоў сямейнага жыцця, Любоў Сірыська, здаецца, знайшла формулу шчаслівага замужжа:

– Мужа нельга раніць. Трэба быць пакладзістай, саступаць яму. Калі вы будзеце кожны вечар сустракаць яго з працы з качалкай, паверце, ён знойдзе тую, што будзе сустракаць яго з усмешкай.

### Пасля вячэры калоры трэба "выхадзіць"

Хаця Любоў Сірыська і гатуе смачную і каларыйную ежу на ўсю сям'ю, але пры гэтым сама выглядае нашмат маладзей за свае гады.

– Я пастаянна нешта гатую, таму што люблю гэтым займацца. Калі зусім трэба хутка нешта спячы да чаю, то пяку вяртуту.

Звычайнае цеста, якое гатуецца на пельмені, раскачваецца тонка-тонка, па цесце паліваецца алей і пасыпаецца цукар. Затым гэтае цеста трэба скруціць у трубачку, з трубачкі робіцца бублік. Кладзецца ўсё на патэльню і пячэцца з двух бакоў. Цеста раскачваць трэба вельмі тонка, інакш вяртута не прапячэцца.

**– У чым сакрэт маладосці?**

– Не скардзіцца. Гэта па-першае. А па-другое, прытрымлівацца рэжыму. У мяне кожны дзень пад'ём у 6:30. Пакуль ляжу ў ложку, ужо раблю першыя фізічныя практыкаванні: закідваю ногі ўгору, падымаю тулава. Потым устаю.

Цягам дня таксама памятаю пра тое, што трэба і папрысядаць, і масаж зрабіць, і з эспандарам пазаймацца. Вячэраю толькі да 18:00. Пры гэтым, калі бачу, што на гадзінніку ўжо 17:45, то бягу на кухню, хуценька гатую вячэру, каб паспець да 18:00. Пасля вячэры ні ў якім разе не сяджу, бо трэба "выхадзіць" калорыі. Я ці ў агародзе нешта раблю, ці ў хаце, ці проста гуляю пешшу да нашага Красненскага "лебядзінага" возера. Спаць кладуся не пазней за 23:00.

Дала Любоў Васільеўна яшчэ адну параду: не спяшыць, лепей справу адкласці, чым рабіць яе на бягу.

– Не спяшайцеся жыць, усміхайцеся, працуйце, нясіце людзям дабро. У гэтым шчасце.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

**"А ён мне не спадабаўся, я адразу мянушку яму дала: шэра-бура-малінавы. Бо вусы былі каштанавыя, валасы – русыя, а бровы і павейкі – белыя. Але ў гасцях пасадзілі нас побач. Налілі ў чарку віна, а я не п'ю, і ён таксама. Прапанаваў раздзяліць віно на дзве чаркі. Так і атрымалася: думалі, што дзелім віно, а аказалася, раздзялілі ўсё жыццё на дваіх.**

# Ісці сцяжынай адчуванняў

## У цэнтры "Надзея" запусцілі новы праект

ВІЛЕЙКА

**У межах беларуска-нямецкага праекта "Сцяжына адчуванняў па Кнэйпу" дзіцячы аздараўленчы цэнтр "Надзея" наведалі нямецкія эксперты Крысціна і Андрэас Оты з горада Бад-Швальбаха, што знаходзіцца ў федэральнай зямлі Гесэн.**

Андрэас і Крысціна – муж і жонка. У Беларусь яны прыехалі ўпершыню. Супрацоўнікі цэнтра зладзілі для іх экскурсіі па Міншчыне. Госці пабылі ў Хатыні, Мінску. У час аглядной экскурсіі па Вілейцы пазнаёміліся з гісторыяй і архітэктурай горада, пабачылі Вілейскае вадасховішча, завіталі на Віллянін хутар.

Супрацоўнікі "Надзеі" прадставілі гасцям медыцынскую і педагагічную работу цэнтра. Разам з дзецьмі, што аздараўляюцца ў "Надзеі", Андрэас і Крысціна паўдзельнічалі ў адукацыйных і спартыўных мерапрыемствах.

### Хаджэнне басанож як стыль жыцця

Аднак асноўнай справай, дзеля якой прыехалі госці з Германіі, стала абмеркаванне стварэння ў цэнтры сцяжыны Кнэйпа. Андрэас на радзіме ўзначальвае аб'яднанне Кнэйпа і з'яўляецца інструктарам. А Крысціна там працуе медсястрой.

Эксперты зладзілі сустрэчу-прэзентацыю для медыкаў і педагогаў. Яны расказалі пра сцяжыну адчуванняў, яе добрае ўздзеянне на арганізм і прапанавалі стварыць такую ў "Надзеі".

– Мы падумалі над прапановай і пагадзіліся, – кажа намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце **Вера Тоўсцікава**.

**– "Надзея" ад пачатку свайго існавання супрацоўнічае з немцамі. А раней вы ведалі што-небудзь пра методыку Кнэйпа? – пытаюся ў Веры Тоўсцікавай.**

– Не. Пра сцяжыну адчуванняў я, як і большасць нашых супрацоўнікаў, даведалася ўпершыню. І аказалася, што сцяжына – з'ява зусім не новая. Хутчэй, добра забытая старая. У Германіі цяпер вельмі распаўсюджаныя такія методыкі аздараўлення. А прыдумаў сцяжыну адчуванняў яшчэ ў 19 стагоддзі нямецкі святар і фізіятэрапеўт **Себасцьян Кнэйп.**

Як расказалі эксперты з Германіі на прэзентацыі праекта, у юнацтве Кнэйп захварэў на сухоты. Але дзякуючы асаблівай методыцы змог істотна палепшыць уласнае здароўе.

Юнак хадзіў басанож па розных паверхнях: каменьчыках, пяску, шышках, трэсках. У выніку адбываўся натуральны масаж ступні. А гэта вельмі карысна. Бо на ступні кожная кропка "адказвае" за пэўны орган.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Крысціна і Андрэас Оты ў цэнтры "Надзея".

Фота забяспечана Тацянай МАЙСАК.

### Себасцьян Кнэйп – бацька асабістай гігіены

Себасцьян Кнэйп (1821 – 1897). Баварскі каталіцкі святар. Адзін з самых вядомых у свеце прыхільнікаў гідратэрапіі, фітатэрапіі і рацыянальнага харчавання.

Ва ўзросце 21 года ён пачаў вывучаць багаслоўе і стаў святаром. Служыў духоўнікам у кляштары сёстраў-дамініканак. У 1894 годзе становіцца папскім прэлатам.

На працягу многіх гадоў Кнэйп хварэў. Назіранні за сваёй хваробай прывялі яго да распрацоўкі ўласных метадаў водалячэння. Першапачаткова ён практыкаваў ў кляштарнай мыйні бялізны. Паступова да яго сталі з'язджацца тысячы людзей у пошуках збаўлення ад хвароб.

У Германіі і ў суседніх краінах з'явіліся шматлікія лякарні, што карысталіся яго метадамі.

Вынайшаў салодкую каву (кава Kneipp). Мы абавязаныя яму ўвядзеннем у паўсядзённае жыццё простай асабістай гігіены (штодзённыя мыццё, прагулкі) і прынцыпаў здаровага харчавання.

**Аддзел інфармацыі.**

# Ідэя яднання народаў рухае "Надзеяй"

**Немцы вельмі шчырыя і адкрытыя для размоў, кантактаў і супрацоўніцтва. Гэта адзначае намеснік дырэктара аздараўленчага цэнтра "Надзея – 21 стагоддзе" Вера Тоўсцікава.**

– Хаджэнне басанож – гэта іх стыль жыцця. Да таго ж – гэта методыка аздараўлення, даступная абсалютна кожнаму. Крысціна і Андрэас проста "гараць" сваёй ідэяй. І хочуць "запаліць" ёй як мага больш людзей, каб дапамагчы ім вырашыць нейкія праблемы са здароўем.

Чаму нямецкія партнёры прапанавалі стварыць такую сцяжыну менавіта ў "Надзеі"? Асноўны накірунак працы цэнтра – аздараўленне дзяцей. У тым ліку і аздараўленне прыроднымі фактарамі. Хаджэнне па сцяжыне будзе умацоўваць арганізм: стымуляваць кровазварот, павышаць тонус, добра ўплываць на імунітэт. Менавіта гэта, на думку Веры Тоўсцікавай, стала прычынай увагі Крысціны і Андрэаса Отаў да цэнтра.

Мая суразмоўца адзначае, што для "Надзеі" прапанова партнёраў стварыць "Сцяжыну адчуванняў" мае важнае значэнне. Па-першае, гэта даступная магчымасць палепшыць здароўе для дзяцей і дарослых, якія адпачываюць у цэнтры. А па-другое, тое, калі немцы прапанавалі нам такі праект, то гэта само па сабе сведчыць пра высокую ацэнку дзейнасці беларускага боку.

Першыя выпрабаванні сцяжыны здароўя пройдуць налета. Лета для "Надзеі" – час розных праектаў. У іх удзельнічае шмат дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі. Таму было б вельмі добра ўжо ў пачатку лета правесці першыя "выпрабаванні" сцяжыны здароўя.

Эксперты з Германіі абмеркавалі з супрацоўнікамі цэнтра, як усталяваць сцяжыну Кнэйпа ў "Надзеі", выбралі месца для яе, вырашылі, як будзе выглядаць сцяжына адчуванняў.

На тэрыторыі цэнтра пад адкрытым небам некалькі сектараў размесцяць у выглядзе падковы. У кожным будзе свой напаўняльнік – мох, пясок, каменьчыкі, драўніна і так далей.

3 кастрычніка немцы адзначаюць нацыянальнае свята – Дзень яднання Германіі. Калі б у 1989 годзе не абрынулася Берлінская сцяна, ці быў бы магчымы такі сумесны праект? Ці было б магчымым існаванне "Надзеі" ўвогуле?

Мабыць, сёння ў свядомасці немцаў усё меншую ролю адыгрывае тое, з якой часткі Германіі яны паходзяць: з Усходу ці Захаду. Вера Тоўсцікава кажа, што ва ўсякім разе для людзей, якія разам з беларусамі стаялі ля вытокаў стварэння цэнтра, гэта было неістотна. Важна тое, што ў 1941-1945 гадах Беларусь пацярпела ад вайны з нацыстамі, у 1986 – ад Чарнобыля.

**І галоўнай ідэяй у стварэнні "Надзеі" было яднанне двух народаў для таго, каб дапамагчы Беларусі.**

У жніўні-верасні 2017 года Андрэас і Крысціна павінны другі раз прыехаць у "Надзею". Тут яны пакажуць майстар-клас па выкарыстанні сцяжыны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

НАВІНЫ ГЕРМАНІІ

## Памер 96-гадовы былы вязень чатырох лагераў смерці Манхаймер



Фота alchetron.com.

Макс Манхаймер.

**У Германіі ва ўзросце 96 гадоў памер былы вязень нацысцкіх канцлагераў пісьменнік і мастак Макс Манхаймер. Пра гэта паведаміла "Радио Свобода".**

Дзесяткі гадоў ён стрымліваў сябе ад аповедаў аб перажытай трагедыі. Але ў сярэдзіне 1980-х вырашыў прысвяціць рэшту жыцця барацьбе з антысемітызмам.

Манхаймер памёр у адной з бальніц Мюнхена.

У 1943 годзе, напярэдадні свайго 23-годдзя, Манхаймер разам з сям'ёй і маладой жонкай быў арыштаваны і накіраваны ў канцлагер Аўшвіц (Асвенцім).

Бацькі Манхаймера, яго жонка і сястра загінулі ў газавай камеры ў першую ж ноч, яшчэ адна сястра і брат – праз некалькі тыдняў.

Браты Макс і Эдгар засталіся ў жывых.

Пазней яго перавялі ў яўрэйскае гета ў Варшаве. Ён працаваў там грузчыкам, а ў хуткім часе стаў удзельнікам "маршу смерці" ў канцлагер Дахаў, пасля чаго быў вязнем яшчэ двух лагераў.

У красавіку 1945 года цягнік з вязнямі, накіраваны ў чарговы канцлагер, быў спынены амерыканскай арміяй. Вязняў, сярод якіх быў і Манхаймер, вызвалілі.

Многія гады ён стрымліваў сябе ад аповедаў аб перажытай трагедыі. Але ў сярэдзіне 1980 гадоў вырашыў прысвяціць рэшту жыцця барацьбе з антысемітызмам, чытаў лекцыі ў школах і ўніверсітэтах, выступаў супраць правага экстрэмізму.

Жалобу з прычыны смерці выказала канцлер Германіі Ангела Меркель, якая высока ацаніла намаганні Манхаймера па захаванні памяці аб Галакосце.

**Аддзел інфармацыі.**

НАВІНЫ

## "Смаргонь" выбыла з Кубка Беларусі

СМАРГОНЬ

На мінулым тыдні "Смаргонь" правяла два матчы, і абодва ў гасцях.

21 верасня ў матчы 1/8 Кубка Беларусі гуляла з камандай вышэйшай лігі "Слуцкам". Смаргонцы саступілі 0:3 і не выйшлі ў 1/4 фіналу.

У 20-м туры чэмпіянату першай лігі чэмпіянату Беларусі па футболе 25 верасня Смаргонь гуляла ў Оршы з мясцовым клубам. Смаргонцы адкрылі лік: на 32-й хвіліне вызначыўся **Аляксандр Клешчанок**. Але потым гаспадары забілі пяць галоў: два ў першым тайме і тры ў другім. Выніковы лік: 5:1 на карысць "Оршы".

"Смаргонь" па-ранейшаму займае пятае месца. На рахунку каманды – 30 ачкоў.

У наступным туры, 2 кастрычніка, "Смаргонь" дома прыме "Днепр", які ідзе на другім месцы.

## "Вілія" атрымала тры ачкі без гульні

ВІЛЕЙКА

Госці, каманда "Крупкі", не з'явіліся на матч чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе ў Вілейку. Ён павінны быў адбыцца 25 верасня. Гасцям залічылі тэхнічнае паражэнне 0:3. "Крупкі" і ў мінулым туры не з'явіліся на гасцявы матч.

"Вілія" па-ранейшаму ідзе на 10-м месцы. У наступным туры, 2 кастрычніка, яна згуляе ў гасцях супраць "Зоркі-Вікторыі" з Пухавіцкага раёна.

## У Вілейцы беглі крос

ВІЛЕЙКА

Спаборніцтвы па лёгкаатлетычным кросе прайшлі 22 верасня. Праводзіліся яны ў межах круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў Вілейскага раёна.

Прынялі ўдзел сем камандаў, паведаміў **Аляксандр Вайда**.

Мужчыны беглі 1000 метраў, жанчыны – 500. Правялі тры забегі: адзін жаночы і два мужчынскія.

Паміж жанчын перамагла **Вікторыя Сайдашава** з "Зеніт-БелОМА". На другім месцы – **Аляксандра Асіпенка** з Вілейскага водаканала, на трэцім – **Наталля Бяганская** з аддзела адукацыі, спорту і турызму

У мужчын лепшым быў **Андрэй Лазовік** (аддзел адукацыі, спорту і турызму). Далей у тройцы прызёраў размясціліся **Вадзім Ярашонак** з мэблевай фабрыкі і **Максім Абодзіч** з Вілейскага РАУС.

У камандным першынстве першае месца за водаканалам. Другое – за Вілейскім РАУС. Трэцяе месца падзялілі мэблевая фабрыка і аддзел адукацыі, спорту і турызму.

Пасля васьмі відаў у круглагадовай спартакіядзе лідзіруе аддзел адукацыі, спорту і турызму, расказаў Аляксандр Вайда. У гэтай каманды – 191 ачко. На 18 ачкоў менш у Вілейскага водаканала. На трэцім месцы – "Зеніт-БелОМА" са 137 ачкамі.

**Аддзел інфармацыі.**



# Хаця "Іслач" і не гуляе, быццам "сабака ў будцы", але не забівае

МАЛАДЗЕЧНА

**Матч каманды "Іслач" супраць гродзенскага "Нёмана" закончыўся безгалявой нічыёй.**

Гульня адбылася ў нядзелю, 25 верасня.

Як пасля гульні прызнаваўся гулец гродзенскага "Нёмана" **Уладзіслаў Клімовіч**: "Гульня была бегатнёй туды-сюды".

Гледачоў на трыбунах, канешне, стала ў разы меней.

Ды і што тут гаварыць, калі самыя маленькія заўзятары сыходзяць са стадыёна ў слязах:

– Дзеееeed, ты мне надакучыў са сваёй "Іслаччу", – плакаў хлопчык.

Калі высветлілася, чаму плача малы, аказалася, што ён ходзіць-ходзіць з дзедам на гульні, а так ні разу не ўбачыў, як перамагае яго каманда.

На пасляматчавай прэс-канферэнцыі галоўны трэнер "Іслачы" **Віталь Жукоўскі** пракаментаваў:

– Абедзве каманды хацелі гуляць у атаку. У такіх гульнях трэба выканальніцкае майстэрства. У нас з гэтым вялікія праблемы. Папершае, у нас тураў 10 не забіваюць нападаючыя. Усе чакаюць, напэўна, пакуль **Шагойка** заб'е. Быццам і **Дзіма Камароўскі** аднавіўся, у яго быў момант, але не выканалі. Ну і са стандартаў, вядома, трэба было выціскаць. Добра выводзілі, было шмат момантаў, у якіх трэба было зрабіць усё наадварот: калі трэба скідаць – мы б'ём, калі трэба біць – мы скідаем. А каб перамагаць – патрэбныя галы. А галы – гэта майстэрства. Хай жа мы б гулялі "сабака ў будцы", але мы гуляем у атаку, агрэсіўна, спрабуем пераходзіць сярэдзіну поля, і выканаўцы ёсць – не сказаць, што хлопцы маладыя і сырыя. Але не ідзе і ўсё. Нічога з гэтым не зробіш.

Але рабіць нешта трэба, таму што ў Маладзечне камандзе засталося згуляць усяго тры гульні: з жодзінскім "Тарпеда", з "Шахцёрам" з Салігорска і з камандай са Слуцка.

**Наталля ТУР.**

Фота Наталлі ТУР.

Галоўны трэнер "Іслачы" Віталь Жукоўскі падчас гульняў заўсёды эмацыйны.

# "Ашмяны" саступілі 0:2

АШМЯНЫ

"Ашмяны" 24 верасня прымала дома "Гомельчыгунтранс", які ідзе ў першай лізе на трэцім месцы.

– Ужо на першай хвіліне госці далі зразумець, што прыехалі толькі за перамогай. Пасля навеса з вуглавога мяч у вароты "Ашмянаў" забіў **Яўген Кудаш,** – расказаў прэс-аташэ ФК "Ашмяны" **Аляксандр Навумчык**. –

На 8-й хвіліне сустрэчы варатар нашай каманды **Аляксандр Шып** згуляў рукамі за межамі штрафной пляцоўкі, і госці атрымалі права на штрафны. Яго рэалізаваў **Аляксандр Калацей**. Забіўшы два мячы ў пачатку, "чыгуначнікі" палегчылі сабе задачу на гульню. Далей ужо гулялі па ліку.

Ашмянцы ў пачатку другога тайма спрабавалі пераламаць ход сустрэчы. Правялі некалькі вострых атак на вароты саперніка, але да гола справа так і не дайшла.

"Ашмяны" з пяццю ачкамі замыкаюць турнірную табліцу.

**Аддзел інфармацыі.**

Фота vk.com/fc_oshmiany, Аляксандра НАВУМЧЫКА.

Момант гульні.




## Сямейныя катлеты з сырам ад 10-гадовай дзяўчынкі

**Цяпер у магазінах можна выбраць розныя катлеты. Ёсць у форме зорачак, сэрцайкаў, нават у форме курынай ножкі. Аднак мы больш любім катлеты, зробленыя дома.**

Робіць, канешне, мама. Але я маральна падтрымліваю і ў тымсім дапамагаю.

*Фарш свіны – 600 грамаў*
*Яйка – 1 штука*
*Цыбуля – 1 невялікая*
*Часнок – 1 зубок*
*Батон – 50 грамаў*
*Перац молаты*
*Сыр – 150 - 200 грамаў*
*Алей для смажання*

Батон намачыць у малацэ. Цыбулю дробна нарэзаць. Часнок адціснуць.

У фарш дадаць цыбулю, часнок, хлеб з малаком. Соль і перац дадаць на смак. Усё добра перамяшаць.

Пасля пачынаем ляпіць катлеты. У сярэдзіну кожнай кладзём кавалачак сыру.

Абсмажваем з абодвух бакоў. Калі неабходна, можна патушыць.

Такія катлеты мы любім есці з салатай, бульбай. А часам проста з хлебам.

**Паводле Юліі ЯРАШОНАК, 10 гадоў.**

Падзяліцеся рэцэптамі фірменнай стравы з чытачамі. Дашліце іх на электронную пошту **regionnews@rh.by**, пажадана з фотаздымкамі.

За свае старанні пераможца зможа пабыць з кампаніяй на дзесяць чалавек у банкетнай зале "**Глушэц**", якая знаходзіцца ў Маладзечне па Ларына, 2-а.

## Паназіраць за птушкамі ў Мядзеле

МЯДЗЕЛ

Восеньскія дні назіранняў за птушкамі EuroBirdWatch2016 пройдуць 1 і 2 кастрычніка.

У райцэнтры 1 кастрычніка ў 10:00 адбудзецца экскурсія. Месца сустрэчы: вуліца Ленінская, 2, Мядзельская сярэдняя школа №1 імя Уладзіміра Дубоўкі.

У нядзелю, 2 кастрычніка, у прыбярэжнай зоне возера Мястра на вуліцы Набярэжнай з 11:00 арганізуюць назіральную пляцоўку.

**Аддзел інфармацыі.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | | | | | | | |
| | 7 | | 3 | | 4 | 2 | | 1 |
| | | | 1 | | | 7 | | 4 |
| | 3 | | | | 9 | 6 | | |
| | | | 6 | 1 | 3 | | | |
| | | 2 | 4 | | | | 1 | |
| 9 | | 7 | | | 6 | | | |
| 8 | | 6 | 9 | | 1 | | 5 | |
| | | | | | | | 7 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Кароткі курс, як зразумець мужчын, змяшчаецца ў 288 старонак

**Як метафарычна сказаў псіхолаг Джон Грэй, мужчыны – з Марса, жанчыны – з Венеры. Аднак насельнікі розных планет у рэальным жыцці імкнуцца зразумець сутнасці адзін аднаго.**



Фота imi.ru

**Часам падаецца, што мужчыны і жанчыны – жыхары розных планет. Ці так гэта на самой справе, адказы шукаем у кнігах.**

Такую спробу зрабіў і пісьменнік **Януш Вішнеўскі**. Не, ён не імкнуўся дапамагчы іншым мужчынам спасцігнуць жанчын, наадварот, гэта кніга дапамагае раскрыць мужчынскую сутнасць. Канешне, хто як не мужчына можа расказаць лепш пра самога сябе.

Аднак гэта не проста роздумы аднаго з прадстаўнікоў моцнага полу, усе словы ў кнізе "Наошта патрэбныя мужчыны" аўтар падмацоўвае навуковымі звесткамі, статыстычнымі дадзенымі.

Як рэнтгенам Януш Вішнеўскі разглядае мужчыну і з фізіялагічнага боку, праводзіць "інтымную геаграфію", зазірае і ў душу. Так пісьменнік спрабуе высветліць, чаго баяцца мужчыны, ці могуць быць вернымі, як пакутуюць прадстаўнікі моцнага полу. Як не дзіўна, аўтар знаходзіць адказ на пытанне, ці праўда, што жанчыны лепшыя за мужчын.

Ужо напачатку аўтар шакіруе чытача выказваннямі: "Жанчыне, каб легчы з мужчынам у ложак, неабходна адчуванне блізкасці, даверу і трываласці сувязі, мужчыну – галоўным чынам – месца..." Дзякуючы падобным шакіруючым выказванням, параўнанню моцнага і слабага полу пісьменнік увесь час трымае чытача ў цікаўнасці, якія ж мы на самой справе.

Не абыходзіцца Януш Вішнеўскі і без цікавых лічбаў, якія надаюць грунтоўнасці кнізе. Не верыць у некаторых момантах – не атрымліваецца. Прывядзём некаторыя лічбы з твора.

### Беспрацоўным мужам жонкі здраджваюць часцей

1. Даследаванні, праведзеныя ў 2001 годзе сярод амерыканскіх студэнтаў, паказалі, калі жанчыны хацелі б мець за жыццё ў сярэднім чатыры-пяць партнёраў, мужчыны мараць аб 18 жанчынах.

2. Пік разводаў у свеце па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя прыходзіцца на пяты год сумеснага жыцця.

3. Радзей здраджваюць мужчыны, калі яны бедныя, а партнёрка – багачка. Толькі адна са 100 жанчын, якая ўступіла ў сувязь з прадстаўніком багатай эліты, рашаецца на здраду, у той час як беспрацоўным мужчынам здраджваюць каля 30% іх партнёрак.

4. У Іране існуе "пробны шлюб". Аднак мужчына і жанчына павінны заключыць дамову. Тэрмін яе можа доўжыцца ад некалькіх хвілін да 99 гадоў. Першая жонка пры гэтым не абавязаная нават ведаць пра гэта.

**5. Больш за 67% тых, хто здраджвае жонцы, жывуць у страху, што гэта стане вядома.**

6. Ва ўзросце старэй за 50 гадоў верагоднасць таго, што мужчына кіне жонку і будзе з маладой палюбоўніцай на 73% вышэй, чым ва ўзросце ад 30 да 45.

Застаецца чакаць падобную кнігу і пра жанчын. Галоўнае, каб у прадстаўніцы прыгожага полу, якая возьмецца за такую працу, не атрымалася сітуацыя, як у анекдоце. Навукоўцы зразумелі, чаго хоча жанчына, а жанчына ўжо перадумала.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

РЭПЕРТУАР НА КАСТРЫЧНІК

**"Кот у ботах"** *Г. Уладычына* (казка-прыгода, рус.)
9 кастрычніка – у 12:00

**"Маленькая гісторыя"** *Н. Гернэт* (музычная казка, рус.)
16 кастрычніка – у 12:00

**"Церамок"** *С. Маршак* (вясёлая казка, рус.)
23 кастрычніка – у 12:00

**"Казкі з куфэрка"** *А. Жугжда* (спектакль-імправізацыя)
30 кастрычніка – у 12:00



Чакаем Вас, шаноўныя гледачы, па адрасе: г. Маладзечна, вул. **Драздовіча, 5-в**.
Тэл. (80176) **75-36-73, 76-84-27**

УНП 600136804



ГАРАСКОП
30.09-6.10


**Авен.** Якой бы ўладнай і моцнай натурай вы ні былі б, трэба памятаць, што мяккасцю і пяшчотай можна дасягнуць вельмі многага, калі ўмела гэта прымяняць.


**Цялец.** Калі ў вас дрэнны настрой, то не спрабуйце выказваць усім тое, што вы пра іх думаеце. Сёння гэта не сапсуе адносіны, але ўсё не вечна. У такія дні абмяжуйце сябе ад лішніх кантактаў.


**Блізняты.** У жыцці разлічвайце на свае веды і ўменні – яны заўсёды застануцца з вамі. Абзавядзіцеся сябрамі, якія падтрымаюць у цяжкай сітуацыі. І тады ніякія перамены і катастрофы вам не будуць страшныя.


**Рак.** Рашуцца на шлях у невядомае, насуперак сваім страхам – гэта пад сілу далёка не ўсім. Тут мноства прыгод, небяспекі. І магчымасць зразумець сябе і дасягнуць новых вяршынь.


**Леў.** Не бойцеся перамен! Няхай яны прыйдуць нечакана і выб'юць глебу з-пад ног. Потым вы зразумееце, што ўсё да лепшага.


**Дзева.** Не ўпусціце шанец, які хутка можа падвярнуцца. Вам трэба будзе правярнуць адну справу. Можа, гэта і не зусім законна, але пры спрыяльным збегу абставін вы атрымаеце задуманае і выйдзеце сухімі з вады. А перамоўцаў, як кажуць, не судзяць.


**Шалі.** Будзьце прыхільныя да іншых людзей, даруйце ім іх памылкі і дапамагайце па меры магчымасці.


**Скарпіён.** У вас узнікне жаданне схітрыць, падпарадкаваць сваёй волі людзей, нават калі яны з'яўляюцца членамі вашай сям'і. Кантралюйце сябе.


**Стралец.** Ідэі будуць біць з вас крыніцай, галоўнае усё запісаць і запомніць, каб потым абавязкова рэалізаваць.


**Казярог.** Спрыяльны час для вучобы і знаёмстваў. Кантакты з людзьмі будуць прыносіць вам задавальненне. Не выключанае нават рамантычнае знаёмства.


**Вадалей.** Часцей паўтарайце словы: "Тое, чаго я хачу, з вялікім жаданнем імкнецца быць маім. Такі вось абавязак ва ўсяго, што я хачу, стаць маім". Запусціце іх у сваю падсвядомасць, і яны будуць дзейнічаць як праграма.


**Рыбы.** Вы можаце ганарыцца сабой, але вам страшна. Не перажывайце, проста розум часта бярэ верх над эмоцыямі, і іх становіцца нябачна няўзброеным вокам.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 1 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +14 | | +13 | | +9 | | +13 | |
| | +16 | | +14 | | +11 | | +14 | |
| | 737 | → 6 | 740 | → 5 | 742 | ↖ 4 | 743 | → 2 |
| Вільня | +13 | | +11 | | +7 | | +12 | |
| | +18 | | +16 | | +12 | | +16 | |
| | 745 | → 7 | 748 | → 5 | 751 | ← 4 | 753 | → 3 |

| | | |
|---|---|---|
| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.16
Захад 18.47
Даўжыня дня 11.31

Усход 7.24
Захад 19.13
МАЛАДЗІК




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература – 2,4 °С у 2001 годзе
Максімальная тэмпература + 22,1 °С у 1981 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,1 мм у 1977 годзе
Паводле meteoinfo.by

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАВЕЧЧЫНЫ



Здымак фотамастака Юрыя ГОРЫДА.



● ПРОСТА АНЕКДОТ

Была нядаўна ў гасцях у сяброўкі, частавалася салатай з печані, морквы, цыбулі і сухарыкаў. Салата смачная, пытаюся, як завецца, на што гаспадыня адказвае "Ленін". Чаму менавіта "Ленін", патлумачыць не змагла, так бабуля заўсёды называла. Госці не менш за гадзіну прыдумлялі версіі адна лепш за другую. Хто кажа, што печань і сухарыкі – як Ленін у маўзалеі, іншыя, што печань была самым даступным прадуктам. Вырашылі званіць бабулі. Аказалася, салата "Ленін" таму, што рэцэпт расказала цётка Лена.

***

Добра быць бабуляй. Згубіла шкарпэтку – звязала новую.

***

Дзеля грошай можна пайсці на ўсё! Нават на працу.

***

Еду ў аўтобусе. Насупраць сядзіць малады чалавек. То падымае на мяне вочы, то апускае. Мне ўжо надакучыла. А пасля, калі людзей паменела, убачыла, што ён чытае кнігу "Як распазнаць вядзьмарку".

***

Жонка забіла маразілку мясам, курыцай, катлетамі нейкімі і з'ехала на месяц. Пельмені няма дзе пакласці! Есці хачу, паміраю!

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якім павінны быць настаўнік?



**Дыяна Рогач, навучэнка музычнага каледжа імя Агінскага:**
– Добрым, але ў той жа час патрабавальным і з моцнымі нервамі. Ён можа расказаць цікавыя факты, прывесці прыклады з жыцця і пажартаваць. Хутка камп'ютараў стане яшчэ болей і дзяцей будзе цяжка чамусьці навучыць, але я спадзяюся, што настаўнікі застануцца ранейшымі.



**Ганна Самаль, вучаніца сярэдняй школы №14:**
– Настаўнік маёй мары – справядлівы, у меру строгі, які паважае і любіць дзяцей. І я ведаю яго – гэта наша першая настаўніца Алена Уладзіміраўна Прохарава. Яна заўсёды падтрымлівала і дапамагала, а, галоўнае, стала для нас сапраўдным сябрам.



**Уладзімір Пільнік, вучань сярэдняй школы №12:**
– На мой погляд, настаўнік – гэта чалавек, які заўсёды ведае адказы нават на самыя цяжкія пытанні па сваім прадмеце і ўмее зацікавіць ім вучняў. Ну, і вядома, для нас ён павінны быць лідарам і, у некаторай ступені, таварышам.



**Яна Казакевіч, вучаніца сярэдняй школы №11:**
– Сапраўднаму настаўніку трэба быць цікавай асобай і да кожнага знаходзіць падыход, а гэта складана. Цяпер мала людзей, хто хоча стаць настаўнікам, бо гэта цяжка праца. Таму, я лічу, што ў будучыні вучыць дзяцей будуць робаты.



**Дар'я Белых, вучаніца гімназіі №10:**
– Галоўнае, каб настаўнік не крычаў і даступна тлумачыў. Напрыклад, наша настаўніца рускай мовы Алеся Міхайлаўна Маліноўская. Дрэнную адзнаку яна не спяшаецца ставіць у журнал, а дае магчымасць выправіць яе падчас урока.



**Максім Кароль, навучэнец Маладзечанскага політэхнічнага каледжа:**
– Ідэальны настаўнік – той, хто любіць сваю працу, вучыць гуляючы, калі пытаецца, то дае падказкі. А на ўроках абавязкова кажа нешта не з падручніка і заўсёды выказвае сваё меркаванне.



**Арына Вярхоўская, вучаніца гімназіі-каледжа мастацтваў:**
– Абавязковыя рысы настаўніка – інтэлігентнасць, камунікабельнасць і адданасць сваёй справе. Сваю работу ён павінны выконваць якасна, на сто працэнтаў.

**Падрыхтавала Ірына БУБНОВА, школа журналісткі "Маладзік".**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№40 (1118) 30.09.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 941 . Падпісана ў друк у 9.00 29.09.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.